

Галіна ТРАШЧОТКА

→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl



№ 12 (3332) Год LXV Беласток, 22 сакавік 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Да 95-годдзя з дня нараджэння Віктара Шведа

# Штрыхі на палях супрацоўніцтва

Віталь ЛУБА

З Віктарам Шведам я пазнаёміўся амаль паўвека таму. Праўда, ведаў я яго раней са старонак «Нівы», альманахаў і паэтычных зборнікаў, раз бачыў на аўтарскай сустрэчы ў маёй роднай вёсцы і нават паразмаўляў з ім хвіліну. Аднак бліжэй мы пазнаёміліся ў першай палове сямідзясятых гадоў у Варшаве. Тады я вучыўся на завочным аддзяленні беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Аднойчы нас, студэнтаў-завочнікаў, наведаў на вуліцы Смычковай Віктар Швед, добра вядомы маім сябрам-студэнтам, якія працавалі настаўнікамі роднай мовы на Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Тады па вуліцы Сенатарскай актыўна працаваў Варшаўскі аддзел БГКТ з клубам, які курыраваў менавіта Віктар Швед. Наш курс не раз пабываў у беларускім клубе па вуліцы Сенатарскай.

Пазней нашы дарогі сышліся ў Беластоку — першапачаткова ў Галоўным праўленні БГКТ, а пазней у «Ніве». На зломе сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў быў я членам Галоўнага праўлення і меў нагоду сустракацца з варшаўскімі дзеячамі на пасяджэннях і з'ездах. Пазней, калі Віктар Швед выйшаў на пенсію і пераехаў у Беласток, а я з 1988 года стаў працаваць у «Ніве» — наладзілася пастаяннае супрацоўніцтва на літаратурна-выдавецкай ніве.



Працуючы ў рэдакцыі з тэкстамі, быў я ці не адным з першых чытачоў прапанаваных да друку вершаў. Калі гартаю падшыўкі «Нівы» і ўспамінаю сваю рэдакцыйную працу, паўстае перада мной вобраз паэта, які ўсёй душой перажывае за лёс беларускага народа ўвогуле, а беларусаў Беласточчыны ў прыватнасці. А быў гэта час бурных перамен — у нябыт адыходзіла Польская Народная Рэспубліка, наставала III Рэч Паспалітая. Палітычным і эканамічным зменам спадарожнічалі як станоўчыя, так і адмоўныя паслядоўнасці. Паэт з надзеяй вітаў новае. У пачатку васьмідзясятых гадоў была гэта ідэя Беларускага аб'яднання студэнтаў, з'яўленне бюлетэня „Сустрэчы" і студэнцкай старонкі „Прысутнасць" у „Ніве", а пад іх канец і на пачатку дзевяностых — рэгістрацыя БАС, Звязу беларускай моладзі, Беларускага гістарычнага таварыства, Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва". У сваіх мемуарах напісаў: „Я памяняю сваё жыццё таксама. Вярнуся на Беласточчыну. Буду далей пісаць вершы. Не буду высылаць у „Ніву", а толькі іх заносіць. Уключуся ў новае жыццё".

Узнікненню Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" папярэднічаў канфлікт з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, якое тады лічыла сябе выдаўцом тыднёвіка (датацыя Міністэрства культуры і мастацтва на выдаванне „Нівы" траплява менавіта на рахунак БГКТ) і імкнулася кантраляваць змест друкаваных матэрыялаў. Праграмную раду стварылі пяць новых арганізацый, а ад удзелу ў ёй адмовіліся манапалістычнае дагэтуль БГКТ і Грамадскі камітэт пабудовы музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. У складзе Праграмнай рады Віктар Швед прадстаўляў Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Скляўшаяся сітуацыя прывяла да палярызацыі асяроддзя беларускіх дзеячаў на прыхільнікаў БГКТ і „Нівы". „Ты ўжо не наш, ты ніўскі", — папракалі Віктара Шведа лідары Таварыства. Але ці ж можна дакараць такімі словамі чалавека, які свой жыццёвы і творчы шлях прайшоў з „Нівай"? Гэта ж гонар! Думаю, што і для паэта, і для самой газеты ў прыватнасці.

Паэт, так як дэкляраваў, уключыўся ў новае жыццё, стаў супрацоўнічаць са шматлікімі арганізацыямі і ўстановамі, якія працуюць у карысць беларушчыны. Удзельнічаў, між іншым, у мерапрыемствах згуртавання АБ-БА, якое арганізавала навучанне беларускай мове ў школах Беластока, сустракаўся з вучнямі, супрацоўнічаў з Цэнтрам праваслаўнай культуры, Хрысціянскім экуменічным аб'яднаннем „Oikumene", апрача „Нівы" друкаваўся таксама ў штомесячніках „Часопіс" і „Przegląd Prawosławny", гасцяваў у перадачах Польскага Радыё Беласток і Беларускага Радыё Рацыя. І не спыняў літаратурнай творчасці, прасякнутай клопатам пра стан беларушчыны.

На фоне старых праблем, якія непакоілі беларускую нацыянальную меншасць (дэнацыяналізацыя, скарачэнне ліку беларускага насельніцтва і звужэнне кола носьбітаў роднай мовы), выявіліся новыя. Напрыклад, у вершы адрасаваным дзеячам беларускіх арганізацый у Польшчы пытаў: чаму не можам жыць у згодзе? Замест аплёўваць адны адных, заклікаў змагацца, займацца справай, аб'ядноўваць народ, паколькі ў адваротным выпадку разбітых і апляваных лягчэй будзе асіміляваць.

Лібералізацыя палітычна-грамадскага жыцця паспрыяла радыкалізацыі яго цёмных бакоў, такіх як неталерантнасць. А з яе праявамі паэт сустрэўся ў Беластоку не раз. У адным з вершаў аўтар пытае, калі беларусы стануць партнёрамі для польскіх суседзяў і перастануць прасіць у іх талерантнасці. Узбударажыла паэта таксама се-

чытайце ☞ 2

## Мой Швед

Для мяне ад немаўляці
слова роднае Швед нёс.
Моцы, крэпасці не страціць
наша мова і наш лёс.

**Міра ЛУКША**

## Пакаленне

*Прысвячаю Віктару Шведу*

Назначыў Бог дарогу ў жыцці,
сказаў: — Ты нарадзіўся ў вёсцы Мора,
напрамак дарогі выбраў Я Табе,
лёс Твой — літаратурная прастора.

Куды б не ехаў, куды б не йшоў,
паэтам будзеш заўсёды першым,
накорміш словам тых людзей,
каго ажыццявілі твае вершы.

Прайшлі гады, сапраўды праляцелі.
Мы не шукалі рэйтынгу на словы.
І не было б тут Віктара між намі,
калі б не любоў да беларускай мовы.

**Уладзімір САЎЧУК**

## Юбіляру Віктару Шведу

*З нагоды 95-годдзя з дня нараджэння*

За вясёлкай ідзе паэт,
А яго нам пакуль не дагнаць,
Не зламаўся ад розных бед,
І пражыў 95!
І пражыў, і жыве яшчэ,
Бо свой лёс не жадаў марнаваць.
Хай рака жыцця шчэ цячэ
Больш за ўсе 95!
Хай ярчэй свеціць радасцю дом,
Дзе так добра радкі пісаць.
Дзе вясёлка дугой за акном
Быццам ўсе 95!
І хоць снегам ляжыць сівізна,
Ды вясну Вашу ёй не суняць.
Будзе жыць на душы вясна,
Пакуль Вам 95!
І хай ў Мора вядуць сляды,
І да ста ўжо рукой падаць...
Вам тварыць і тварыць заўжды,
Бо пакуль 95!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Троны і каронавірус



Бяда для планеты Зямля прыйшла адтуль, адкуль не чакалі. Новы каронавірус, ад якога пакуль няма надзейнай абароны, надзвычай хутка пранік на ўсе кантыненты і захапіў у заложнікі мільёны людзей. І вось вам усе сучасныя супертэхналогіі, пакарэнне космасу і найвышэйшыя дасягненні чалавечага розуму! Выяўляецца, што ад нейкага нябачнага мікраскапічнага віруса нічога з гэтага не ратуе. Нібы вышэйшая сіла паказвае чалавецтву яго дробязнасць і нікчэмнасць у гэтым Сусвеце, папярэджвае і заклікае схамянуцца ўрады і дзяржавы, цэлыя народы і супольнасці.

На момант напісання гэтых радкоў ад заражэння вірусам covid-19 і яго наступстваў у свеце памерла ўжо больш за шэсць з паловай тысяч чалавек. Пераважна гэта людзі сталага веку, па якіх вірус б'е асабліва небяспечна, фатальна абвастраючы хранічныя хваробы. Асабліва жудасна сітуацыя выглядае ў Італіі, дзе адзін толькі дзень 15 сакавіка панёс жыцці ажно 368 чалавек. Характэрна, што як толькі эпідэмія пачалася ў Ламбардыі і іншых паўночных правінцыях краіны, сярэдняя і паўднёвая Італія працягвалі гулі, забавы і паўсядзённы рытм жыцця. А зараз і Вечны горад і іншыя населеныя пункты на Апенінах літаральна апусцелі ад людзей, а медыкі пры ўсіх высілках не могуць даць рады гэтай пошасці. Трагічна выглядае сітуацыя і ў некаторых іншых заходнееўрапейскіх дзяржавах — Іспаніі, Францыі, Швейцарыі. Вось чаму іншыя еўрапейскія краіны — Польшча, Чэхія, Літва..., нягледзячы на параўнальна невялікую колькасць інфікаваных грамадзян, неадкладна кінуліся прымаць экстранныя меры: уводзіць каранцін, закрываць межы, спыняць авіярэйсы, рыхтаваць дадатковыя часовыя шпіталі, мабілізоўваць увесь медычны персанал.

На гэтым пагражальным фоне Беларусь застаецца гэткай выспай спакою. Начальнік дзяржавы нават заявіў, што „мы прайшлі гэты перыяд без панікі”. Але ці насамрэч няма чаго баяцца, ці ўсё папросту пушчана на самацёк? Некаторыя грамадскія і палітычныя лідары заклікаюць дзяржаўныя структуры да тэрміновых захадаў і неадкладных мер. У сацсетках людзі па-чорнаму жартуюць — для Беларусі каронавірус не так страшны, таму што пасля заражэння паміраюць людзі пераважна сталага веку, а ў нас да 70 гадоў мала хто дажывае. Іншыя сур'ёзна кажуць, што цынічнай дзяржаве выгадна пазбавіцца ад старых, хворых і нямоглых грамадзян — у сітуацыі моцнага гаспадарчага крызісу гэта значна скароціць выдаткі на пенсіі і іншыя сацыяльныя выплаты.

У беларускіх гарадах не назіраецца асаблівага хвалявання, пакуль жыццё ідзе звычайным парадкам. Нават на хакейныя матчы ходзяць тысячы людзей. Не спынены спартовыя спаборніцтвы, не зачынены вышэйшыя навучальныя ўстановы, школы, садкі. Хоць людзі і закупляюцца прадуктамі значна больш, чым звычайна, але гэта сведчыць хутчэй усяго пра недавер да нацыянальнай валюты, якая зноў пачала дэвальвавацца. Многія прагназуюць, што беларусаў вельмі хутка чакае значнае падвышэнне цэн на харчовыя тавары.

Усе суседнія дзяржавы закрылі з Беларуссю мяжу, апошняй пра гэта абвясціла Расея. Праўда, як тэхнічна Масква збіраецца гэта рабіць, пакуль незразумела. Беларусь жа дагэтуль маўчыць. А можа на нашай тэрыторыі і сапраўды ўсё пад татальным кантролем — шматлікія міліцыянты і сілавікі возьмуць і дубінкамі паразганяюць гэты вірус. Ёсць яшчэ версія, што ўлады Беларусі абралі варыянт змагання з пошасцю такі як у Карэі, Сінгапуры, В'етнаме, якія не ўводзілі татальнага каранціну. Але афіцыйна пра гэта не гаворыцца. А тлумачэнне Міністэрства аховы здароўя выглядае хутчэй нейкім літаратурным опусам, чым навукова-практычным тлумачэннем.

Падаецца, што з часу Другой сусветнай вайны, чалавецтва не мела такога глабальнага выкліку на выжыванне. Цяперашняя пандэмія — гэта жорсткі тэст на здольнасць урадаў і міждзяржаўных структур ратаваць жыццё людзей. Гэта тэст для ўсіх на салідарнасць, на ахвярнасць, на здольнасць выявіць лепшыя якасці чалавецтва. У час гэтага выпрабавання многія троны захістаюцца, упадуць многія кароны, можа абрынуцца так звыклы дабрабыт і асалода ўладкаваным жыццём. Эпоха геданізму і культу матэрыяльнага мінае...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Час матрошкі



Каранавірус зжэр мяса з крамных паліц! Я не ведаю, як у іншым месцы, але няма нават грама сырой каркоўкі ці курынай ножкі ў нарваўскіх крамах. Хапае вяндлін, але ўжо курынай печані ці нават індычай галёнкі не ўбачыш. Ёсць макароны і кансерваваная ежа. Гэта я бачыў, калі ў мінулую пятніцу хадзіў па крамах як штотыдзень. Вялікіх праблем з хлебам няма. У Нью-Йорку затое, адкуль штодня атрымліваю навіны «з першых рук», халадзільныя прылаўкі гнуцца ад мяса, а прапалі макароны і прадукты запячатаныя ў бляшанкі і слоікі. Не хапае там вады ў бутэльках і сокаў. А ў нарваўскіх крамах купім усё, чаго няма ў Нью-Йорку — і макароны, і крупу, і тлушчы ды сокі, і мінеральную ваду. Жыві, не паміраі! Усё ж чалавек не жыве галёнкай; яму трэба хлеб і вада. Ну, можа яшчэ тварог з зялёнай цыбулькай.

Мне падабаюцца раніцы. Здаецца, яны нерухома вісяць як стракозы. І яны застаюцца ў завісі, пакуль я не скончу сваю першую каву. І я магу папіваць яе на працягу любога часу. Толькі ўсё мае свой непазбежны канец. І раніцы, і дні, і месяцы... Чым старэйшы я станаўлюся, тым больш паскараецца час. Унутры мяне. Дні, тыдні, месяцы, гады — падобныя адзін на аднаго, усе яны ўціскаюцца адзін у аднаго, як у рускай матрошцы. Час у маёй памяці быццам згушчаецца, нібы паскараецца. Толькі мяне самога ўсё менш і менш. Я амаль не бачу людзей, хаця б здалёк. Нікога не сустракаю, за выключэннем сустрэч у тэрміновых пытаннях. А гэтых спраў, супольных для маіх суседзяў, у маім выпадку ўсё менш, і менш мяне ў жыцці сельскай абшчыны, у якой мне прыйшлося экзіставаць. Не тое, каб я знарок пазбягаў людзей ці хто-небудзь пазбягаў мяне. Каранавірус таксама не ўплывае на гэта. Гэта рэальнасць старэючых вёсак. Калі ў іх засталося толькі некалькі маладых людзей, яны кантачаць з такімі, як яны. Жывуць у сваіх ізаляваных светах — цяжкага заробку і юнацкіх мрояў; эсэмэсак і інтэрнэту. Старэйшым, інвалідам і на пенсіях, калі яны адправілі дзяцей у гарады, застаюцца ўласныя праблемы: бязлюдная хаціна, бесперапынна ўключаны тэлевізар і штодзённая дылема, як дабрацца без машыны ў аддаленую паліклініку, у краму, ці лепш мо набыць у аптэцы лекі ці, можа, зэканоміць на іх і адкласці некалькі злотых, каб заахвоціць унука наведаць бабулю, дзядулю... Пра што тут гаварыць — няма пра што. Ну, хіба што жанчыны возьмуцца за кудлы або мужыкі ўспомняць мінулыя сваркі. Вёска на міг ажыўляецца, аднаўляе забытыя саюзы, уступае ў новыя... На міг. Я не ведаю, як у горадзе, але ў вёсцы ўсё далей ад хаты да хаты, ад чалавека да чалавека. Нават лавачкі пры падворках, якія злучалі суседзяў няспешнымі размовамі, — гэта проста постмадэрнісцкі «дэкор», пераўзыходзячы збуялае «profanum» паўсядзённай адчужанасці. Лепшы сусед у вёсцы... тэлевізар. Гэта калі гаворка пра пажылых людзей. Маладыя бушуюць па інтэрнэце, задавальняючыся віртуальным жыццём. Часам мне здаецца, што эпідэмія каранавіруса — чыста медыйная падзея. Вядома, аднак, зараз больш у віртуальным свеце, чым у рэальным, у якім удзельнічаю. Да гэтага часу ніхто з маіх сяброў, раскіданых па ўсёй Польшчы і па свеце, не заразіўся гэтай хваробай. Ніхто з іх не дакрануўся да віруса прама. Асноўны пандэмічны страх праходзіць праз інфармацыйныя СМІ. Іх какафонны шум пакідае ў галаве бясконцую трывогу — «віртуальную трывогу». Што яшчэ горш, яна спантанна пераліваецца з галавы ў рэальнасць. У тое, што адбываецца тут і цяпер. Больш за тое, я згодны з гэтым двайным існаваннем у двух чужых мне светах. Жыву тут і там аднагасова. Тут — у асабістай прысутнасці, там — праз тэлебачанне ці інтэрнэт. Не сутыкаю гэтых светаў. Лічу ў жаху ўсё большую колькасць пацярпелых ад заразы ва ўсім свеце, непараўнальную са штогадовым жнівом ад звычайнага грыпу, забываю пра старыя добрыя прыказкі, што падчас навальніцы дрэвы ў лесе хістаюцца тым мацней, чым бліжэй да верхавін. На дне лесу, дзе час цячэ сваім непахісным рытмам, здаецца — заўсёды спакайней. І гэта сапраўды так, бо час укаранелы ў тут і цяпер. У самой рэальнасці. Дык у якой?

Я амаль не пісаў «у рэальнай рэальнасці», каб узмоцніць аслабленае становішча рэчаіснасці ў маёй свядомасці. Аднак гэта было б «масляністае масла». Хаця сёння — хто ведае? Калі няма ўжо самой праўды, толькі яе мутаваныя формы: «праўды праўдзівыя і самыя сапраўдныя» альбо ёсць «праўды відавочныя і невідавочныя», дык што такое праўда і толькі праўда? Эх, толькі каранавірусу гэта вядома!

**Міраслаў ГРЫКА**

1 ☞ працяг

рыя пажараў праваслаўных храмаў, у тым ліку царквы на Святой Гары Грабарцы. „Гэта бяспраўя страшэнны акт, — калі, піша ў вершы паэт, — цэркві гараць у час наш спакойны”. Балюча паэт успрымае новую гістарычную палітыку, калі без разбору ўшаноўваюцца ўсе жаўнеры пасляваеннага польскага падполля, у тым ліку віноўнікі расправы над беларускім мірным насельніцтвам у 1946 годзе. У вершы „Залешаны” аўтар з сумам сцвярджае, што „сталіся сёння героямі тыя ўчарашнія каты”.

Публікацыі вершаў часам спадарожнічалі гумарыстычныя моманты. Напрыклад, прысвечаны моўнай праблеме верш «Мы таксама не гусі», у якім паэт напісаў: „Палякі не гусі / Сваю маюць мову / Дык сваёй, беларусе, / Не заві бесталковай”, выклікаў палеміку вакол польскага слова „gęsi” з эпіграфа Мікалая Рэя. А спрэчка вялася вакол таго, ці згаданае слова гэта назоўнік множнага ліку (тады па-беларуску: «гусі»), ці прыметнік (тады па-беларуску павінна быць: «гусіны»). Аднак палемісты не дайшлі да адной высновы і засталіся пры сваіх меркаваннях.

Паэты звычайна друкуюць вершы. Віктар Швед на старонках «Нівы» друкаваў таксама свае артыкулы і інфармацыі з падарожжаў, сустрэч. Аўтар не раз




пабываў у Савецкім Саюзе, у тым ліку і ў Беларусі. Там сустракаўся з ураджэнцамі Беласточчыны, якія пасля вайны апынуліся за ўсходняй мяжой. У выніку нашы чытачы маглі пазнаёміцца з жыццём і дасягненнямі літаратуразнаўца Уладзіміра Казберука з Бандароў, паэта Яўгена Міклашэўскага з Лысак, літаратурнага крытыка Серафіма Андраюка з Градалёў, пісьменніка Аляксея Карпюка са Страшава. У васьмідзясятых гадах Віктар Швед быў у камандзіроўцы ў Маскве, дзе сустрэў вядомых беларусаў, якіх лёс закінуў у расійскую сталіцу. Напрыклад, у пачатку 1988 года напісаў нам пра сустрэчу ў Маскве з Канстанцыяй Буйло — аўтаркай верша «Люблю наш край, старонку гэту» і пра пазнейшае спатканне з яе сынам Яўгенам Калечыцам (ужо па смерці паэтэсы). Тады якраз была знойдзена арыгінальная метрыка яе нараджэння, старэйшая на шэсць гадоў. Высветлілася, што верш, вядомы ў нас як гімн беларусаў Падляшша, напісала яна не ў дванаццаць, як меркавалася, але ў васямнаццаць гадоў.

У другой палове дзевяностых гадоў тагачасны рэдактар „Нівы” Яўген Міравіч выступіў ініцыятарам заснавання выдавецкай серыі, прысвечанай жыццю беларусаў Беласточчыны. У выніку ў чатырох тамах удалося сабраць успаміны, пачынаючы з бежанства 1915 года, а канчаючы на 1956 годзе. Матэрыял збіралі журналісты, карэспандэнты і чытачы „Нівы”. У акцыю ўключыўся таксама Віктар Швед. Вынікам яго працы сталі раздзелы „У ІІ Рэчы Паспалітай” у кнізе „У новай айчыне” (2001); „У Другую сусветную” ў кнізе „Пакаленне вайны” (2003) і „Пасля другой сусветнай” у кнізе „Час трывогі і надзеі” (2007). Папоўненыя ўспаміны ўвайшлі пазней у мемуарную кнігу „З Мора ў горад”, выдадзеную ў 2015 годзе. У ёй аўтар выказаў спадзяванне, што запісанае ім стане цаглінкай у гісторыю беларушчыны ў Польшчы. Паколькі ўспаміны абрываюцца на выездзе з Варшавы, аўтар паабяцаў апісаць і не менш плённы беластоцкі перыяд — ад выхаду на пенсію па сённяшні дзень. І аўтар стрымаў слова. Дзякуем! Выхад кніжкі ў годзе слаўнага юбілею 95-годдзя з дня нараджэння будзе каштоўным падарункам як для аўтара, так і для чытачоў.

**Віталь ЛУБА**

## Настаўнікі роднай мовы

# І ў школе, і па-за школай размаўляю з вучнямі на гаворцы. У нас яшчэ ёсць дзеці, якія гавораць па-свойму...

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Усе тут пішуць, як яны хацелі вучыцца на беларускіх факультэтах, што гэта была іх мара. Я ніколі не думала пра беларускую філалогію. Я проста хацела пабываць у Варшаве, пажыць там у нашай сталіцы, пахадзіць у кіно, пабушаваць па магазінах «Цэнтрум», пазнаваць свет. Які ж быў наш свет у 80-х гадах, выпускнікоў школ, а большасць з нас гэта ж жыхары падляшскіх вёсак? Мама была знаёмай дырэктара Бельскага беларускага ліцэя (казала, што калісьці кароў пасвілі), а ён відавочна сказаў, каб дачка ішла на беларускую філалогію. Так, што я там апынулася выпадкова, чаго, барані Божа, не шкадую. Там пазнаёмілася са сваім мужам, з якім жыву па сённяшні дзень.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Беларускай мове ў падставовай школе вучыў мяне спадар Антанюк з Дзянісак. Добра вучыў. Гэта было ў школе ў Храбалах. Першыя беларускія літаркі навучыла мяне пані Яўгенія Колас у школе ў Кнаразах, маёй роднай вёсцы. У нас у першым класе нават матэматыка была па-беларуску! Спадарыня Колас вучыла нас усім прадметам. І думаю, што вось маю першую настаўніцу магу назваць такім ідэалам.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Цяпер не бываю сярод настаўнікаў беларускай мовы, а шкада. Апошні раз была на беларускім мерапрыемстве нядаўна, на гала-канцэрце беларускай песні ў Беластоцкай філармоніі. Асабліва мне спадабаўся ансамбль «Сувенір».

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Калі вучыла беларускай мове, найбольш супрацоўнічала з «Нівай».

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Калі я працавала настаўнікам беларускай мовы, а гэта было ў 1991-2000 гадах у падставовай школе і ў 2000-2008 гадах у гімназіі, мне здаецца, што тады не было такіх праектаў як цяпер. Адзін праект «Тут наш дом» удалося нам правесці з вялікім размахам. Запрасілі здаецца шэсць ці восем суседніх школ: Чыжы, Кляшчэлі, Дубіны, Орлю, гайнаўскія школы, бельскую «тройку». Турнір паміж школамі праводзіўся цэлы дзень. А чаго ж там не было: пралі на калаўротку, хадзілі на хадулях, адгадвалі загадкі, быў конкурс пра нашы мясцовасці (кола фартуны) і многае іншае. На жаль, наша тэлебачанне не знайшло часу, каб да нас завітаць. Было другое якоесьці мерапрыемства ў Нарве. Магчыма, што мы не афармілі ўсяго так, як трэба. З таго часу астаўся ў нашых настаўнікаў нейкі жаль. Такія праекты, якія наладжвалі супрацоўніцтва паміж школамі і настаўнікамі былі вельмі патрэбныя. Потым пасля нашага турніру неяк усё «памерла». Па-мойму маладым пакаленнем замала цікавіліся беларускія арганізацыі. Нашаму праўленню БГКТ важнейшыя былі фэстыны,



**Галіна ТРАШЧОТКА** нарадзілася ў вёсцы Кнаразы на Бельшчыне. Закончыла беларускую і рускую філалогіі на Варшаўскім універсітэце. Ужо 30 гадоў працуе настаўніцай у Дубічах-Царкоўных, дзе выкладае польскую, рускую, а раней і беларускую мовы. Жыве ў Бельску-Падляшскім.

якія арганізоўвалі старэйшым жыхарам вёсак, чым падтрымка беларускай мовы ў школах. А можа так даць з Беларусі ў нашы школы інструктараў танцаў, спеваў, мастацкіх заняткаў? На гэта патрэбныя грошы, якіх самаўрады не маюць.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс, на які я ахвотна ездзіла з вучнямі, гэта «Беларуская гавэнда». Там вучань можа паказаць свой сапраўдны талент. Атмасфера конкурсу вельмі спрыяльная і вучню, і таму, хто яго рыхтуе. Калі не заваёўваеш самага важнага месца, то і так усе задаволены.

Ахвотна ездзіла я яшчэ на тэатральныя конкурсы, на якіх заваёўвалі ўзнагароды і з пачатковай школай, а потым з гімназістамі. Я асабіста вельмі любіла гэтыя конкурсы.

Прыемна было, калі вопытнае журы дацэньвала працу настаўніка беларускай мовы.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У Дубічах-Царкоўных заўсёды можна разлічваць на падтрымку бацькоў і Гміннага асяродка культуры. Шкада толькі, што іншыя пра нас забылі, а ў нашай школе і ў Чыжах амаль усе дзеткі вывучаюць беларускую мову.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— На сённяшні дзень я настаўнік польскай і рускай моў. Ужо 12 гадоў не навучаю роднай мове. Работы многа. Трэба рыхтаваць да экзаменаў па двух прадметах, а ў мінулым годзе яшчэ рыхтавала і гімназічны клас да гэтых жа экзаменаў з польскай і рускай моў.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— ...

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Ёсць і лаўрэаты прадметнага конкурсу па беларускай мове (здаецца 8 асоб), і лаўрэаты па рускай мове (6 вучняў)

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не ведаю як у ліцэі, але ў падставовай школе ў старэйшых класах патрэбныя новыя. Праграм таксама няма. Старэйшыя настаўнікі даўней пісалі праграмы навучання, а цяпер хіба няма каму пісаць.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Добра працавалася на падручніках гімназіі, але яны цяпер таксама неактуальныя.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Максім Багдановіч.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Цяпер я чытаю дэтэктыўныя кніжкі, перш за ўсё нарвежскую літаратуру.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

...?

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— «Басовішча» і «Бардаўская восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— І ў школе, і па-за школай размаўляю з вучнямі на гаворцы. У нас яшчэ ёсць дзеці, якія гавораць па-свойму, але іх ужо ўсё менш.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Даўней добра было працаваць настаўнікам, а цяпер...

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Будучыня польскай школы, польскай адукацыі.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Многія мае вучні працуюць па-за межамі Польшчы.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Столькі гадоў працавала ў дубіцкай школе, як на такую маленькую школку то і лаўрэатаў нямала. Столькі было розных выездаў на конкурсы, праца ў конкурсных камісіях, а ўзнагарод як бы і не было. Раз толькі войт гміны на Дзень настаўніка даў грашовую ўзнагароду, а ў Дубічах я ўжо працую амаль трыццаць гадоў. Узнагароду дырэктара школы то я атрымлівала не раз.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу дае цяпер мне тое, што ўжо хутка выйду на пенсію, бо ў сучаснай школе цяжка працаваць.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Такіх успамінаў шмат за столькі гадоў працы.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нашай школе ёсць клас, у якім знаходзяцца розныя прылады, макаткі, вышываныя ручнікі і г.д. Каля будынка школы ў старой школе ёсць музей, дзе можна нават спячы хлеб.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Цяжка прадбачыць, што будзе далей. Вёскі паміраюць, у школах усё менш дзяцей, цяжка іх чым-небудзь зацікавіць.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Феномен Зэнка: 23.06.1969

Палова краіны ўбачыўшы і пачуўшы Зэнка Марытнюка млее, а другая — смяецца. Адкуль у яго такі поспех? Талент даў яму Месяц, а касай сыпле Венера ў Быку!

Сільвестар мараў з TVP. Восем мільёнаў (!) гледачоў перад тэлевізарамі. А ўсё дзякуючы аднаму Зянону М., якога завуць каралём дыска-пола, лідару гурта „Акцэнт". Улюбёнцу палякаў, у тым ліку прэзаса тэлебачання Яцка Курскага (дагэтуль). Адкуль Курскі захапіў быў публічнае тэлебачанне, рэгулярна гасцяваў у ім Зэнэк, а людзі ад мора да Татраў хвалююцца ў рытме яго залятаючых у вуха хітоў, хай нават і запазычаных, але гэта ён зрабіў іх хітамі. Палова грамадзян Польшчы кахае дыска-пола, другая клянецца, што яго не слухае, але дзіўна — тыя простыя тэксты з залятаючай у вуха мелодыяй усе дасканала ведаюць на памяць, а пасля кілішка ў іх рытме дрыгаюць нават аматары цяжкага рока ці элітнага джазу.

Зэнэк Мартынюк — сапраўды феномен. Свойскі хлапец без асаблівага прыцягальнага выгляду, без асаблівага голасу, з паўсотняй гадоў на карку. Ягнячым голасам пеючы мужычок у кваяцістых кашулях і каляровых летніках, як то кажуць палякі — obciach. Але зарабляе ён большую касу чым любы выканаўца «амбітнай» музыкі. На яго канцэрты звальваюцца тлумы, каб пачуць несмяротныя „Przez twe oczy zielone", „Przekorny los" ці „Życie to są chwile". Царыць ён на вяселлях, дажынках, васямнаццатках ды імянінах, а нават у перапранальні футбалістаў. У апошні час далучыўся да элітнай фільмавай кампаніі: папы, Шапэна, Рэлігі і Пілсудскага — у кінатэатрах ідзе фільм пра жывога пеюна дыска-пола. Чакаўся хіт. Бо што такое ў гэтым Зэнку з Градалёў? Магічная моц скрываецца ў чатырохкратнай кан'юнкцыі Месяца ў Шалях з Юпітарам, Уранам і Плутонам. Мартынюк дасканала адчувае, чаго хочуць людзі і гэта ім дае. «Проста — робіць сваё», — як сціпла прызнаецца. Прытым ён вельмі працавіты! Патрапіць сыграць нават тры канцэрты ўдзень, а юнацкай энергіі дадае яму Марс у знаку вогненнага Стральца.

Папулярнасць, якая прыйшла пасля гадоў іграння ў пажарных дэпо, яго не папсавала. Гэта надалей шчыры, спакойны, просты хлапец з Падляшша, у якім кожны можа ўбачыць сябе. Не мудрагеліць на кожную тэму, не гейтуе канкурэнцыю, не пазіруе з новымі чаравікамі на інстаграме, не пхаецца на «сценкі». Адна і тая самая ад трыццаці гадоў жонка Дануся не мусіць баяцца тлумаў маладых фанатак, бо сям'я для Зэнка, як для кожнага задыякальнага Рака — самая важная. Ніякіх скандалаў, раманаў, здрад. Толькі сыночак быццам бы з іншае гліны. Данілка Мартынюк, пра прафесіі спадчыннік фартуны, аб чым неаднойчы інфармавала прэса і інтэрнэтныя старонкі, трыццацігадовы распешчаны бамбіза, мае ўжо на сваім рахунку праблемы з алкаголем, наркотыкамі і агрэсіяй. Ніколі не цягнула яго да нейкай работы, затое баляваў і ганяўся поршэ ў п'яным відзе, прыносячы сорам славутаму бацьку і маці. Здарылася яму нават напасці на паліцыянтаў, якія прыбылі пасля скандалу з цяжарнай нарачонай, і абняславіць маці сваёй дачушкі. Хаця Зэнэк, вельмі перажываючы паводзіны адзінага сына, верыць, што ён ужо вышумеўся і сёння Данілка — узорны муж і бацька.

Найважнейшай планетай у гараскопе Зэнка з'яўляецца Венера ва ўласным знаку Быка. Гэта яна сыпанула яму шчодра касай, але перш за ўсё прычынілася да таго, што яму музыка сапраўды іграе з сэрца. Бо дыска-пола — з-пад знаку Быка, як і польская вёска. У Зэнку ёсць усё, што кахае кожны Бык. Шчырасць, простыя прыемнасці, свойскія кліматы, патанцоўкі на фэстах, гучныя бяседы. Але Зэнэк яшчэ ўсіх заспее чымсьці новым! Калі ў 2023 годзе Уран зойдзе на ягоную Венеру, Зянон Мартынюк можа цалкам адмяніць свой музычны напрамак. Можа, зайграе штосьці опернага, або сам паявіцца ў тэатры?..

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Кастусь Каліноўскі — герой ён, ці мяцежнік?

— Каліноўскі? Хто пра яго ведае па-за жменькай людзей? Для мяне ён нічога не значыць. Гэта адзін з радавых студзеньскіх паўстанцаў, заслужаных для палякаў. Для нашага народу гэта толькі прапагандысцкая, разадзьмутая ў адносінах да рэалій вартасць. Ён для мяне ніякі герой, — кажа прафесар Анатоль Адзіевіч, старшыня Культурнага таварыства «Русь». І, не хаваючы бацькоўскага клопату, сам ставіць мне пытанне: *„Ці то ў вас няма кагосьці больш заслужанага для беларускай культуры?"*

— А хто для вас заслужаны герой? — пытаю.

— *О, пожалуста*, — яшчэ больш ажыўляецца мой субяседнік. — Быў такі маршал Савецкага Саюза Сакалоўскі, які нарадзіўся ў Козліках. Чаму ніхто пра яго не гаворыць! Гэта ж самы вядомы герой з нашых *тэрэнаў*. Ён узначальваў генеральны штаб СССР. Ці нехта такога маштабу яшчэ тут ёсць? Няма! Або Прыцкі. Ён таксама заслужаны. Чаму ніхто пра яго не гаворыць? Чаму вы ўсё пра гэтага Каліноўскага?

Менавіта ў надта насцярожаным і эмацыйным духу праходзіла чарговая сустрэча Культурнага таварыства „Русь", на якім прафесар Алег Латышонак выступіў з дакладам „Кастусь Каліноўскі і Студзеньскае паўстанне на Літве і Беларусі". Сустрэча праходзіла 26 лютага г.г. у Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку пры нешматлікай аўдыторыі, пераважна старэйшага пакалення. Прафесар Анатоль Адзіевіч аднак пахваліў выступленне ды назваў яго карысным і цэментуючым асяроддзе:

— Мы пазнаёміліся з фактамі і цяпер няхай кожны сам думае, хто для яго Каліноўскі. Для мяне, — яшчэ раз вам паўтараю, — ён ніякі герой!

* * *

Прафесар Алег Латышонак:

— Каліноўскі быў прыкмечаны ў БССР. Героем зрабіў яго акадэмік Усевалад Ігнатоўскі, народжаны ў Такарах, які пасля выхоўваўся ў Дубінах каля Гайнаўкі. Ён стварыў постаць Кастуся Каліноўскага як вялікага рэвалюцыянера і такім Каліноўскі функцыянаваў у савецкай прасторы, прычым не публікавалі яго пісьмовай спадчыны, хіба што выгаднымі ўрыўкамі. У 1920-я гады ўзнік фільм, дзе Каліноўскі зусім сябе не прыпамінае. Ён там змагаецца з польскай арыстакратыяй і гэта ў той час, як не дзіўна, успрымалі ўсур'ёз. Чарговы раз Каліноўскага скарысталі ідэолагі ў час айчыннай вайны, каб такім чынам адкликацца да патрыятычных пачуццяў беларусаў і супрацьдзейнічаць нямецкай прапагандзе. Многія партызанскія брыгады называлі іменем Кастуся Каліноўскага. Ну і так ён, як рэвалюцыянер, датрываў да канца БССР. А ў гады адроджанай Беларусі зноў стаў вялікім героем, аднак пры Лукашэнку гэты культ апынуўся на абочыне. Аднак, апошнім часам аказалася, што Каліноўскі можа быць прыдатны і для прэзідэнта Лукашэнкі. Калі адкапалі астанкі Каліноўскага і іншых паўстанцаў на Замкавай гары ў Вільні, Беларусь афіцыйна да яго прызналася. На ўрачыстасці перапахавання быў віцэ-міністр замежных спраў, які сказаў прамову па-беларуску. Кожны, хто там быў, запамятаў бел-чырвона-белыя сцягі, якія здзімавалі ўсё. Пасля я даведаўся, што беларускія ўлады вельмі садзейнічалі выезду беларусаў на ўрачыстасць. Магчыма, у гэты момант Лукашэнка хацеў сказаць Пуціну: „Глянь, Валодзя, як не я, то прыйдуць яны!"



Злева: Алег Латышонак, Анатоль Адзіевіч

* * *

Трэба адзначыць, што частка аўдыторыі ведала *сваё* і вельмі хацела павярнуць ход сустрэчы ў варожы для Каліноўскага бок. Адзін з самых чорных міфаў, гэта такі, што Каліноўскі вешаў праваслаўных святароў, што грабіў і гвалтаваў мірны беларускі народ, які слушна яго зненавідзеў і лічыў бяздушным *мяцежнікам*.

— Дык чаму ж не глядзець на гэтых паўстанцаў, — гаварыў адзін з дыскутантаў у час сустрэчы, — як на таго ж няслаўнага „Лупашку" і яго выклятых жаўнераў. У чым яны ад сябе лепшыя?

— Каліноўскі не хадзіў па лясах з паўстанцамі і ён да нікога не страляў, — заявіў прафесар Латышонак. — Пра гэта гавораць усе дакументы і крыніцы. Мяне смешыць, — тлумачыў дакладчык, — калі сёння Кастуся Каліноўскага прадстаўляюць з пісталетам, або як з шабляй вядзе атрад у бой. Трэба памятаць, што ён не браў непасрэдна ўдзелу ў барацьбе і да нікога не страляў. Ён быў кіраўніком і ідэолагам.

Тады які быў праўдзівы Кастусь Каліноўскі?

— Каліноўскі, калі гаварыць сёння, — працягваў прафесар Латышонак, — быў польскага паходжання. Яго род паходзіць з Каліноўкі-Сасінаў ад Бранська, у сувязі з чым частка роду носіць прозвішча Сасіноўскі, а частка — Каліноўскі. Прычым Сасіны то быў прускі род. Прусы ўцякалі перад крыжаносцамі і сяліліся на землях Падляшша. І, праўдападобна, Каліноўскі быў па паходжанні прусам. Бацька, Шыман Каліноўскі, прадаў у 1836 годзе маёнтак у Калінове і заснаваў ткацкую фабрыку ў Мастаўлянах. Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў 1838 годзе і быў ахрышчаны ў Ялоўцы. Гадавала яго мачыха, паколькі маці памерла ў яго дзіцячыя гады. Закончыў сярэднюю школу ў Свіслачы і ў 1855 годзе выехаў у Маскву, дзе паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Пасля пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе працягваў навуку і ангажаваўся ў палітычныя арганізацыі арыентаваныя супраць царызму. Раздзяляў ён дэмакратычна-рэвалюцыйныя погляды старэйшага брата Віктара, які памёр перад Студзеньскім паўстаннем. Ангажаванасць у палітыку не перашкодзіла Каліноўскаму здабыць дактарат з галіны права. Ён быў, як на тыя часы, вельмі адукаваным чалавекам. І трэба сказаць, што па адукацыі быў ён чалавекам рускай культуры. Ёсць доказы, што сям'я ў Мастаўлянах размаўляла па-руску.

Прафесар Латышонак зачытаў фрагмент ліста Каліноўскага на рускай мове, чым шакіраваў частку прысутных, якія да гэтай пары лічылі Каліноўскага заўзятым католікам і палякам.

* * *

Сама сустрэча мела паўстанцкі прысмак засакрэчанасці і ў нечым напамінала ідэйна-ментальны палігон. Дасталася маёй сяброўцы, журналістцы Радыё Рацыя. У пэўны момант старшыня аб'яднання «Русь» накрычаў на яе і забараніў афіцыйна рабіць запіс той жа падзеі. — Мы не ведаем, для каго гэта паслужыць!

Таксама агрэсіўныя заўвагі сустрэлі гісторыка Вячаслава Харужага, які хацеў расказаць пра жахлівыя ўмовы сялян у першай палове XIX стагоддзя. А тое, што адазваўся ён па-беларуску, толькі пагоршыла справу:

— Ты адкуль гэта ведаеш! — закрычалі ў зале.

Крытыка імперскай палітыкі ў адносінах да сялян, хай і аб'ектыўная, явілася тут як праява таго ж мяцяжу...

Прафесар Латышонак прысвяціў шмат часу, каб асветліць палітычную і сацыяльную сітуацыю, якая панавала напярэдадні паўстання ў Беларусі. Пытанне Беларусі на зломе 50 і 60 гадоў XIX ст. не было ключавой справай нават для самой Беларусі. Тое, што Каліноўскі пракламаваў ідэю незалежнай Беларусі было яго аўтарскай, індывідуальнай справай, якая выспела ў час падзення паўстання, яго арышту і зняволення. Ідэя, каб беларусы змагаліся за сваю незалежнасць, — на думку дакладчыка, — індывідуальны праект Каліноўскага. Свой запавет ён запісаў у „Лістах з-пад шыбеніцы". Пра тое, што Каліноўскі быў сам, сведчыць і тое, што пасля паўстання ніхто з яго ідэйных паплечнікаў не змагаўся за свабоду Беларусі. Прафесар Алег Латышонак падзяліўся думкай наконт таго, што было б, калі б паўстанцы дабіліся сваёй мэты:

— Тады ў першую чаргу яны знішчылі б Каліноўскага. Бо ён ужо не сыходзіўся з мэтамі, якія адстойвалі б польскую рацыю стану. Яго звычайна палічылі б здраднікам і ворагам Польшчы.

Пра тое, што Культурнае таварыства «Русь» больш чым звычайна пацікавілася справамі паўстання 1863-1864 гадоў, сведчыць і чарговая тэма сустрэчы. Старшыня аб'яднання паабяцаў сустрэчу з Дарафеем Фіёнікам і яго новай кніжкай «Годзі» пра Юзафа Такажэвіча, праваслаўнага паўстанца-беларуса родам з Бельска-Падляшскага.

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

# Забытыя могілкі Сакольшчыны

**На Сакольшчыне па сёння людзі баяцца слова „мор”. Гэтым словам акрэслівалі ўсе інфекцыйныя захворванні — чуму, воспу, тыф. Часта на прыдарожных крыжах можна прачытаць зварот да Бога, каб той абараняў не толькі ад голаду і вайны, але таксама ад паветра (маравой пошасці), якое часам забірала цэлыя вёскі.**

На Сакольшчыне знаходзіцца многа некраполій, якія сёння зарастаюць травой. Людзі мыляюць такія месцы, таму што часта з імі звязаны страшныя легенды. Па сённяшні дзень жыхары вёскі Клімаўка знаходзяць чалавечыя парэшткі ў месцы жвіроўні. Верагодна, што тут знаходзіцца магіла людзей, якія памерлі ад эпідэміі халеры ў 1831-1832 гадах. У 1832 годзе выйшаў царскі ўказ, паводле якога памерлых ад гэтай хваробы людзей павінны былі пахаваць у вёсках, каб не дапусціць распаўсюджання чумы. Раней на Беласточчыне былі створаны камітэты па барацьбе з халерай. Адзін з іх меў штаб у Саколцы. Людзям у той час забаранялася збірацца ў большыя групы, таму што гэта лічылася адной з прычын распаўсюджвання хваробы. Тады ў Санкт-Пецярбургу быў выдадзены буклет з парадамі як змагацца з хваробай. Трэба было трымаць хворых у цёплых і сухіх памяшканнях, піць травяныя адвары і спіртныя настойкі. Інфікаванаму рэкамендавалі пускаць кроў, прыкладаць п'яўкі альбо націраць цела алкаголем.

XIX стагоддзе было перыядам халеры. Хвароба прыйшла да нас з рускай арміяй, якая мела падавіць паўстанне 1830-1831 гадоў. Войскі, якія распаўсюджвалі хваробу, спыніліся ў Беластоку і Бельску. Быў створаны камітэт па абароне ад халеры, які дзяліўся на тры аддзелы: Беласток, Саколка і Бельск. Калі некага «ўзяла халера», такая асоба была абавязаная прыбіць адмысловую шыльду да дзвярэй дома.

Могільнік падобны на той у Клімаўцы знайшлі таксама над Бобрай. У верасні 2018 года супрацоўнікі археалагічнага аддзялення Падляшскага музея ў Беластоку правялі археалагічныя даследаванні на могілках з каменнымі стэламі ў Ягінтах, што ў гміне Новы Двор. Верагодна, могілкі паўсталі ў XVII, а таксама ў XIX стагоддзі, калі Падляшша наведвалі эпідэміі.

Таксама ў Кнышэвічах знаходзіцца магіла тых, якія памерлі з-за эпідэміі. Хаця мясцовыя жыхары інакш тлумачаць з'яўленне таямнічага валуна на горцы паблізу вёскі. Паводле адных, хавалі тут няхрышчаных, або дзяцей, якія памерлі пры родах. Другія гавораць, што валун раней быў скульптурай голай жанчыны. Некаторыя па сёння прыкмячаюць у ім жаночую форму.

На Сакольшчыне знаходзіцца яшчэ адно месца, якое нагадвае гэтае ў Кнышэвічах. Недалёка вёскі Лаўчыкі, што ў гміне Кузніца, на ўзгорку можна знайсці дзясяткі вялікіх камянёў. На некаторых з іх яшчэ можна ўбачыць надпісы. Некаторыя нагадваюць габрэйскія мацэвы, аднак на некаторых можна ўбачыць крыжы.

Таямнічая некраполія знаходзіцца таксама ў вёсцы Шышкі. Сюды, яшчэ да вайны, прыязджалі адпачываць летам яўрэі. Без праблемы і сёння можна тут знайсці ўзгорак. Пасля Другой сусветнай вайны з гэтай гары бралі жвір на будову будынка гарадской управы. Падчас здабывання жвіру былі знойдзены чалавечыя парэшткі і фрагменты трун.

Варта таксама наведаць могілкі ў Гаркавічах, хаця не так проста іх знайсці. На канцы вёскі, некалькі метраў да крыжа можна пабачыць невялікі пагорак, на якім знаходзіцца старая некраполія. Гэта вялікі курган, пакрыты мноствам валуноў. На гэтым узгорку таксама можна пабачыць камень са слядамі адбітых ног маленькага дзіцяці. Паводле мясцовых, яшчэ перад вайною маленькая дзяўчынка з вёскі стаяла босымі нагамі на гэтым камені і пакінула на ім сляды.






1655-1660 гады былі перыядам чумы, якую прынеслі шведскія і маскоўскія войскі. У некаторых вёсках памерла ад яе да 70 працэнтаў насельніцтва. Пазней жыхары Сакольшчыны мелі паўстагоддзя спакою, пакуль у 1708 годзе чума не спустошыла ўсю Літву, не абыходзячы Сакольшчыну, і на працягу наступных некалькіх гадоў гэтая страшная хвароба перыядычна вярталася.

Гісторык Ежы Вісьнеўскі ў 70-х гадах XX стагоддзя паспрабаваў ацаніць маштабы страт, выкарыстоўваючы даступныя крыніцы:

„Nie wiadomo (brak badań) jak wielkie były zniszczenia w osadnictwie i straty ludności na ziemiach między Supraślą, Brzozówką a Niemnem. Można tylko ustalić, jak bardzo były zniszczone wsie między Grodnem a Augustowem. Jeszcze w 1668 r. w położonych tu niektórych wsiach królewskich pustki dochodziły do 90%, a przeciętnie do 50%, a Grabowo i Szuszalewo w 100% były puste. Rewizja ekonomii grodzieńskiej z 1679 r. nie daje możliwości ustalenia wielkości i zasięgu zniszczeń we wsiach i w zaludnieniu, bo one już do tego czasu w różnym stopniu zostały usunięte. Część skutków była jednak jeszcze widoczna w postaci pustych włók we wsiach, pustych placów w miastach i w ogólnym upadku gospodarczym. Obliczając dane zawarte w rewizji z 1679 r. można zauważyć, że stosunkowo najmniej było pustek we włości nowodworskiej (20,6% ogółu włók wiejskich stało pustką), ale jeszcze sporo ich było w Chilmonach (43,3%), w Bieniowcach (38,5%), w Bielanach (44,2%), najmniej było w Juraszach (5%), w Dubaśnej (6,5%) i w Jacznie (7,1%). We włości kuźnickiej, posiadającej też stosunkowo mało pustek (23%), najbardziej puste były Kowale (50%), Klimczany (43,7%) i Saczkowce (32,2%). Bardziej opustoszała była włość odelska (40,2%), w której były wsie w całości lub w połowie jeszcze puste: Wojnowce (57,1%), Nomiki (40,9%). Najbardziej opustoszała była włość kryńska (51,48%), w której były wsie w całości puste (Białogorce), lub przeszło połowa włók leżała pustką: Łużany (88,6 %), Kruszyniany (72%), Narojki (53,3%), Żylicze (50%). Tylko w paru wsiach wszystkie włóki były pod uprawą: Ozierany, Trejgle, Służki. W Kruszynianach parę lat wcześniej — w 1675 r. na 88 włók chłopskich pustką stały 72 wł. Chat zamieszkanych było 17, a pustych 48. W Łużanach w tymże roku było 9 chat pustych i 4 zamieszkane. Pola w Białogorcach w ogóle zarosły. Rozmieszczenie najbardziej opustoszałych wsi wskazuje, że grupują się one koło drogi z Grodna przez Krynki na Podlasie. Dane te wskazują kierunek marszu wojsk. Większość jednak wsi już w 1679 r. miała wielu mieszkańców, którzy jednak nie byli jeszcze w stanie wziąć pod uprawę wszystkich pól we wsi. Upadek gospodarczy szczególnie był widoczny w miastach. W Nowym Dworze w 1679 r. przy rynku było 10 placów zabudowanych i 8 pustych. W Lipsku przy rynku stała tylko jedna chałupa i było 39 placów nie zabudowanych. Rynek lipski, otoczony placami zasianymi zbożem, wyglądał jak plac wśród pól. W całym Nowym Dworze 56% placów [było] nie zabudowanych, a Lipsku 58%. Podobna sytuacja była zapewne w dobrach szlacheckich”.

І ўсё ж, жыхары Сакольшчыны шукалі звышнатуральных прычын у эпідэміях. Вера ў Божае пакаранне была амаль стандартнай. Часта таксама людзі звязвалі чуму з анамаліямі надвор'я. Зразумела, габрэяў таксама часта вінавацілі ў выкліканні чумы.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## У нас чытаюць „Ніву”

Некаторыя сённяшнія чытачы беларускага штотыднёвіка „Ніва” ў вёсцы Міклашэва Нараўчанскай гміны Гайнаўскага, як, між іншым, Ян Драўноўскі і Яўгенія Богуш, былі вучнямі Пачатковай школы ў Нараўцы. Тут яны вучыліся літаратурнай беларускай мове. „Ніва” ім спадарожнічае ўвесь час. У іх дамах кожны год ёсць новы ніўскі беларускі каляндар.

Спадарыні Яўгеніі спатрэбіўся яшчэ адзін экземпляр „Нівы” з календаром на 2020 год. І я 14 сакавіка гэтага года прывёз ёй экземпляр 51 нумара „Нівы” з 2019 года (ён з календаром) ды „Ніву” № 11 ад 15 сакавіка 2020 года. У лістаношы купіў я шэсць экземпляраў 11 нумара (больш ён не меў). Зараз яны ў пастаянных чытачоў. Мне важна, каб людзі куплялі і чыталі свой родны часопіс. А зноў чытачам „Нівы” важна, каб я не забываў пра іх, быў у кантакце — часцей наведваў іх і тэлефанаваў.

Яны прачыталі мой допіс пад загалоўкам „Іду з „Нівай” у 11 нумары газеты. Я напісаў у ім, між іншым, пра ніўскага чытача Андрэя Пучынскага з Новага Ляўкова. Ён адышоў ад нас 7 сакавіка г. г. на 87 годзе жыцця. Многія нашы чытачы яго ведалі. Гэта сумная вестка. Круг чытачоў меншае, яны адыходзяць у нябыт то ў Плянце, то ў Семяноўцы, то апошнім часам у Новым Ляўкове (тут памерлі двое). **(яц)**

## Смертаносная зараза

Васьмідзесяцігадоваму чалавеку не прывыкаць жыць у самоце. Такая старых людзей натура. Дочкі прапанавалі перасяліцца ў горад. Не асмеліўся. „Свая хатка, як родная матка”, — паўтаралі бацькі. І я прытрымліваюся гэтай мудрасці. Не шкадую, аб адзіноцтве не думаю. Маім спадарожнікам, акном на свет застаўся неразлучны прыяцель — камп'ютар. Гэта незаменная дабрадзейнасць цывілізацыйнага прагрэсу. Вось, хаця б зараз. Свет спасцігла нечаканая бяда. У Кітаі ўспыхнула эпідэмія, выкліканая каронавірусам Covid 19. Смертаносная зараза з маланкавай хуткасцю збірае плён. Паводле інфармацыі СМІ на 15 сакавіка ў глабальным маштабе заражаных было 157 440 чалавек, пры тым памерла 3845 чалавек. Каронавірус не абмінуў і нашай краіны. Таксама да 15 сакавіка выкрыта ў нас 111 заражаных і тры смяротныя выпадкі. Узнік закалот у функцыянаванні дзяржавы. Па загадзе міністра здароўя аб'яўлена было эпідэміялагічнае становішча. Грамадзянам, асабліва звыш сямідзесяцігадовага ўзросту, прыхварэўшым сеніёрам, рэкамендуецца заставацца дома, бо такіх каронавірус у аснаўным нападае. Людзі ў перапалоху. Купляюць усё, што пад руку пападзе: аснаўныя харчовыя прадукты, мясныя вырабы, туалетную паперу, мыла ды іншае, нягледзячы на цэны. Паліцы ў маркетах пусцеюць. Так дзеецца не толькі ў гарадах. У нашай Чаромсе і наваколлі такое ж самае відовішча. Колькі часу будуць доўжыцца такія абставіны, Усявышняму адно вядома. Таму святары звярнуліся да вернікаў з заклікам заставацца дома і маліцца ў час трансляцыі набажэнстваў па тэлебачанні або радыё. Цяжка людзям будзе прывыкаць да такіх абмежаванняў. Мне гэта не навінка.

**Уладзімір СІДАРУК**

СЯБРЫ „НІВЫ”



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі



# Віктару Шведу — 95!

Віншуем Віктара Шведа са слаўным юбілеем! 23 сакавіка паэту споўніцца 95 гадоў. Гэта амаль цэлае стагоддзе. Паэт творча звязаны з «Нівай» ад пачатку яе існавання. Гэта таксама вялікая гісторыя — 64 гады сяброўства. Прозвішча Віктара Шведа — свайго роду брэнд беларусаў у Польшчы. Яго вершы (часта на памяць) ведаюць маладыя і старыя, на яго творах вучыліся нашы дзяды, бацькі і сучасныя вучні. Ён самы папулярны аўтар дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». Таксама яго імя называюць амаль усе ўдзельнікі апытальніка для настаўнікаў роднай мовы. Ды не толькі, яго імя назаве кожны свядомы беларус.

Для нас Віктар Швед — першы аўтар і жывая легенда. У свой час яго творы з'яўляліся ў кожным нумары «Зоркі». Усе звыкліся са з'явай і не ўяўляюць, што можа быць іначай. Таму Шаноўнаму Юбіляру зычым моцнага здароўя і новых вершаў.

І каб разам адсвяткавалі слаўныя СТО ГАДОЎ!

Зорка

# Міфы старажытных беларусаў

**ДАРОГА** — у беларускай міфалогіі ўвасабляла сувязь чалавека са светам памерлых. У большасці легенд і паданняў на дарозе адбывалася сустрэча чалавека з Богам. Ён часта, як верылі нашы продкі, з'яўляўся ў выглядзе старога дзеда. Таму заўсёды з прыхільнасцю нашы продкі глядзелі на жабракоў, вандроўцаў, падарожных старэч. Ім давяралі свае сакрэты і прызнаваліся ў бядзе ці горы, верылі, што такім спосабам аслабяць праклён ці чары, ад якіх узялося няшчасце...

Таксама вельмі важнымі былі ўсе сустрэчы ў дарозе. Нядобрае прадказвалі спатканні са святаром, жанчынай з пустым вядром ці зайцам. Аднак калі на дарозе з'яўляўся воўк, быў гэта адназначна добры знак.

Людзі верылі, што па дарозе ходзяць чэрці, набываючы выгляд пана ці жывёлы. Таксама знойдзеныя на дарозе знаходкі мелі вялікае значэнне і часцей за ўсё явіліся добрым знакам. Напрыклад, знойдзеная пуга прадказвала нараджэнне ў сям'і сына. Знойдзеную на дарозе ежу аддавалі дзецям, у якіх былі праблемы з мовай. Яны пасля гэтага пачыналі гаварыць з асаблівасцямі маўлення гаспадара той ежы.

Існавала забарона будаваць хату на месцы, дзе калісь пралягала дарога.

Існаваў шэраг замоў, якія рабілі падарожжа бяспечным і кароткім. У далёкую дарогу давалі разнастайныя абярэгі — родную зямлю, святыя абразкі, вышываны ручнік.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей», складзенай Алена Коршак)**(гак)**



# Сувязь з Беларуссю — гэта дар!

14 лютага разам з Брацтвам праваслаўнай моладзі ў Гарадку мы паехалі на Сусветныя дні праваслаўнай моладзі, якія сёлета адбыліся ў Любліне. У першы дзень у нас была магчымасць лепш пазнаёміцца з іншымі сябрамі. На наступны дзень мы святкавалі адно з дванаццаці вялікіх свят — Стрэчанне Госпадняе. Падчас боскай літургіі мітрапаліт варшаўскі і ўсёй Польшчы Сава (Грыцуняк) прывітаў нас і выказаў радасць ад нашай прысутнасці. Потым мы наведалі стары горад. Яго гісторыю расказаў нам экскурсавод, які зацікавіў нас сваімі апавяданнямі пра Люблін. Мы былі ў захапленні ад будынкаў эпохі Адраджэння і былой ратушы, якая стаіць пасярод рынкавай плошчы. Хор падкрэсліў прыгажосць вячэрні, выканаўшы царкоўныя песні. Увечары ўсе весяліліся на вечарыне або сярод новых сяброў. Мы спявалі беларускія песні, якія нам блізкія. У апошні дзень мы паехалі ў канцэнтрацыйны лагер у Майданак.

Калі мы вярталіся дадому, мы слухалі хіты беларускай музыкі.

Ніхто не хаваў уласнага паходжання. Усе ганарыліся праваслаўнымі каранямі і беларускай культурай. Дагляд за ёй вельмі важны ў гэтыя дні, таму што шмат людзей саромеецца за сваё паходжанне, а грамадства тады становіцца глабальнай вёскай.

Дзякуючы Сусветным дням праваслаўнай моладзі мы паглыбілі нашу веру, пазнаёміліся з новымі людзьмі з падобнымі поглядамі і зразумелі, што сувязь з Беларуссю — гэта дар.

Памятайма, што варта пазнаёміцца з іншымі культурамі і звычаямі, але не забываючы адкуль мы!

*Габрыеля Вільдовіч*
*і Юлія Маркоўская,*
*8 кл., Гарадок*

## УВАГА КОНКУРС! № 12-20

**Ідзе то ў гару, то ў даліну, то лесам, то полем, а сама не варушыцца.**

**Д.....**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 сакавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 8-2020: соль. У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Адзін з Залук



Пэўна здарылася вам, аглядаючы тэлетурнір, крыкнуць у бок экрана: „Не ведаеш адказу на гэтае простае пытанне!?”. З перспектывы хатняй канапы ўсё здаецца працейшым, чым у сапраўднасці. Наш сённяшні герой не толькі так крычаў, але ўстаў з канапы і... сам прыняў удзел у тэлетурніры „Jeden z dziesięciu”. Матэвуш Аўсенюк з Залук, выпускнік Пачатковай школу ў Залуках, Ліцэя № 3 у Беластоку і Палітэхнікі ў Беластоку стаў сапраўднай зоркай не толькі ў сваёй роднай вёсцы. У папулярным тэлетурніры „Jeden z dziesięciu” заваяваў другое месца. У рамках цыкла сустрэч „На два крокі”, якія адбываюцца ў рамках Журналісцкага кружка ў Непублічнай пачатковай школе ў Залуках, адведаў нас і падзяліўся ўражаннямі.

— Чаму „Jeden z dziesięciu” а не “Milionerzy”?

— Я з маленства аглядаў гэтую праграму і падумаў сабе, што варта было б сябе праверыць. Проста мне падабаецца фармат гэтай тэлепраграмы. Я там паехаў з намерам, каб перайсці першы этап, а пазней ужо як атрымаецца.

— Ці, на Тваю думку, былі цяжкія пытанні?

— Не. Амаль на ўсе я ведаў адказы.

— Ці Ты неяк адмыслова рыхтаваўся?

— Не, абсалютна. Нават няма такой магчымасці. Спектр пытанняў вельмі шырокі. Я паехаў, каб сябе праверыць з тэтым, што ўжо маю ў галаве.

— Чаго Табе не хапіла да перамогі?

— Шчасця. Мне здаецца, што ўсе былі на падобным узроўні. Проста тут ужо вырашыла шчасце.

— Як выглядае студыя? Ці Ты нерваваўся, калі ўключылі камеры?



— „Jeden z dziesięciu” здымаюць у Любліне. Гэта такое памяшканне велічыні вашай школы. Камеры мяне не раздражнялі, але гэта, што перад праграмай мне забралі кашулю таму, што яна была каляровая і не спадабалася грымёрам. Прыйшлося мне выступаць у крыху цеснай кашулі, якую далі мне ў студыі. На шчасце запіс адрэзка праграмы, гэта паўтары гадзіны.

— Ці дзякуючы гэтай праграме Ты здабыў папулярнасць?

— Не, хаця многа людзей адазвалася да мяне пасля праграмы (смех).

— Як выглядаюць элімінацыі?

— Яны прайшлі на год раней. Я проста зайшоў на сайт і даведаўся, што будуць элімінацыі ў Варшаве. Якраз тэрмін мне адпавядаў, я паехаў. На месцы трэба было сесці перад рэкрутарам, які ставіў дваццаць пытанняў. Трэба было адказаць прынамсі на сямнаццаць пытанняў, каб перайсці далей.

— На колькі пытанняў Ты ведаў адказ?

— На дзевятнаццаць.

— Ууу! А з якой дзялянкі Ты не хацеў атрымаць пытання?

— Музычнай (смех).

— Скуль у Цябе такія шырокія веды?

— Са школы! (смех) Асновы самыя галоўныя! Мяне цікавяць шматлікія рэчы. Люблю чытаць, даведвацца нечага больш.

— Які быў Твой любімы прадмет у школе?

— Геаграфія і гісторыя. Я іх любіў вывучаць самастойна.

— А што знаходзіцца ў сумках, якія атрымліваюць удзельнікі пасля праграмы?

— Гадзіннік.

— Віншуем і дзякуем за размову.

**Тэкст і фота Улі Шубзды**

# Польска-беларуская крыжаванка № 12-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8-2020:**

Паром, зыхад, нюх, баран, самавар, пралеска, прырода, асот, яр, вазак, на, смак, рай. Ландыш, нос, справа, арысак, рыс, мароз, ох, балота, раса, парк, яна, клін, акрай.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Матэвуш Адамовіч, Ніколь Баслай** з Нараўкі, **Сара Дарпенская, Тамаш Ваўранюк, Оля Хіліманюк** з Нарвы, **Каміль Кубаеўскі, Дзіма Жубэр, Алівія Анапюк** з Орлі, **Вікторыя Баркоўская і Габрыела Красько** з Арэшкава. Віншуем!



# Віктар ШВЕД



## Я — БЕЛАРУС

Я — беларус, рос у народнай гушчы,
Сярод палёў, уквечаных лугоў,
Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы,
Пад заліўныя трэлі салаўёў.

Я — беларус і сваёй роднай мове
Яшчэ дзіцём вучыўся ад бацькоў.
І слова роднае — мой лёс у гэтым слове —
Мне даражэй, чым сотні іншых слоў.

Я — беларус, рос у сялянскай хаце,
У свет выходзіў праз яе парог.
Сваю любоў да бацькі і да маці
Я ў глыбіні грудзей сваіх збярог.

Я — беларус і гэтым ганаруся.
Усім душу сваю магу адкрыць:
Ніколі і нідзе не адракуся,
Што беларусам жыў і буду жыць!
1957 г.
*(Мая зялёная Зубровія, 1999)*

## БЕЛАСТОЧЧЫНА

Беласточчына, мая зямелька родная,
Жывеш заўсёды ты ў глыбі маіх грудзей.
Нідзе мясціны не сустрэў ніводнае,
Што мне была б хоць крышку даражэй.

Вось родны краявід, палоскі вузкія,
Якія дробніў люд вясковы з году ў год;
Сярод палёў — пасёлкі беларускія,
Дзе ад вякоў жыве мой дарагі народ.

Гляджу, прысела хатка там вясковая,
Дзе крокі першыя ў жыцці сваім рабіў,
Дзе ад бацькоў вучыўся роднай мове я,
Якую ў шуме дзён імклівых не забыў.

На Беласточчыне пражыў я маладосць,
Ды што пражыў — я нарадзіўся тут.
Таму была найдаражэйшаю і ёсць
Мне Беласточчына, мой родны, мілы кут.
*(Выбраныя вершы, 2000)*

## МАЕ АЙЧЫНЫ

Зямлі я беларускай сынам,
Люблю зямельку і шаную.
Багаты, маю тры Айчыны
І ўсюды галасы іх чую.

Мяне — малая ўзгадавала,
Вялікая — дала асвету.
Другая заўсягды натхняла,
І для яе я стаў паэтам.

Жаданні для яе і мроі,
Бязмежная любоў у сэрцы.
Хварэю сэрцам і душою,
Калі Айчына ў паняверцы.

Вяртаюся з тае вялікай
Зноў у маленькую Айчыну.
Раблю свайго жыцця падлікі,
Тут я жыву і тут спачыну.
*(Мае айчыны, 2003)*

* * *

Прывабнасць кожнай кветкі-краскі
І сэрца кожнага раскоша
Ёсць у звароце: „Калі ласка",
У польскай мове: „Bardzo proszę".

Убачыш сонечны прамень,
За ім і дня таемны вобраз
У прывітанні: „Добры дзень",
Даслоўнасць польскаму: „Dzień dobry".

І беларусаў і палякаў
Заўжды адналькава хвалюе
І дарагое слова: „Дзякуй",
І непаўторнае: „Dziękuję".
*(Выбраныя вершы, 2000)*

## АЙЧЫНА

Мая тут вёска з роднымі бацькамі,
Я тут якраз на белы свет прыйшоў.
Тут першы раз сказаў я слова „мама",
Ды многа іншых змалку любых слоў.

Я рос і вырас на айчынная глебе,
Карэнні тут глыбока запусціў,
І рос не на чужым — на ўласным хлебе,
Салёным потам хлеб свой акрапіў.

Глыбока зросся я з айчынным лёсам,
У гэтым лёсе — лёс журботны мой.
Няшчасці пасылалі нам нябёсы —
З айчынай мы жылі адной бядой.

Айчыну я нашу заўсёды ў сэрцы,
Яна ж адна, няма другіх айчын.
Бацькі мае ў айчыннай спяць зямельцы,
У ёй і я хачу знайсці спачын.

Тут першы крок і першая сцяжына
І першая за плугам баразна.
Таму і дарагая мне айчына —
Мая рака без берагоў і дна.
*(Выбраныя вершы, 2000)*

## АРЛЯНСКАЯ ШКОЛА

Зрабіў тут творчы крок найпершы
У дарагім мастацкім слове.
Пачаў пісаць у Орлі вершы
На польскай і на роднай мове.

Малым я хлапчуком вясковым
Тут пачынаў шлях да асветы,
Мяне тут пані Ціжэхова
Назвала ўпершыню паэтам.

Тут сталася вершаскладанне
Маім свяшчэнным абавязкам,
Ездзіў я з Орлі ў веку раннім
На алімпіяду ў Бельск-Падляшскі.

Тут узрастала мая прага
Пазнаць глыбей усё навокал,
Тут нарадзілася адвага
Пайсці вучыцца ў свет шырокі.

І чым нам больш сівеюць скроні,
Растуць на змену пакаленні,
Тым больш нас вабяць і палоняць
Мясціны родныя карэнняў.
*(Мае айчыны, 2003)*

## СОН

Прысніўся сон. У роднай хаце
Я, апынуўшыся ізноў,
Сустрэўся са старэнькай маці
І прывітаў яе без слоў.

І на калені, як ніколі,
Матулю ўзяў, нібы дзіця,
І маё сэрца, замест болю,
Сагрэла хваля пачуцця.

Нядоўга цешымся мы снамі...
Настаў майго ад'езду час.
Хацеў забраць з сабою маму,
Ды ад яе пачуў адказ:

— Я ўжо, сынок, жыву ў здранцвенні,
Мне рэдка не баліць калі.
Узяў мяне ты на калені —
Нібы абвёз вакол зямлі.
*(Мае айчыны, 2003)*

## ДЗВЕ КАСЫ

*Да маёй 77 гадавіны з дня нараджэння.*

Паўсюдна чую галасы:
— Табе ж ужо семдзесят сёмы!
А я кажу, што дзве касы
Стаяць каля мяне, вядома.

Дык трэба верыць у свой лёс,
У перамогу сваю верыць.
Калі запас я маю кос —
Магу быць грозным касінерам.

І калі б гэтая з касой
Прыйсці хацела нечакана,
Будзе мець ад мяне адбой —
Яшчэ ж зарана, ой зарана.
*(Мае айчыны, 2003)*

## НАТАЛЛІ

Ужо мне семдзесят мінула,
Табе, дачушка, толькі восем.
У твар табе вясна зірнула,
А мне смяецца ў вочы восень.

Я перажыў, дачушка, многа,
Узлётаў шмат было, упадкаў.
Я ўжо ў канцы сваёй дарогі,
Ты — толькі ж у яе пачатку.

Перад табою шлях навукі,
Даволі доўгі і складаны.
Не апускаюцца хай рукі
Перад няўдачай нечаканай.

У творчым будзь заўсёды ўздыме
І веды здабывай упарта,
Каб стаць карыснаю Радзіме
І быць сваёй эпохі вартай.
*(Мае айчыны, 2003)*

## МАЛІТВА

Божа наш Літасцівы,
Магутны, Божа наш Справядлівы, Адзіны!
Учыні, каб народ наш пакутны
Меў заўсёды сваю Айчыну.

Каб народ заставаўся народам,
У чужым не расплыўся моры,
Каб яго аб'ядноўвала згода
У свабоднай жыццёвай прасторы.

Каб народ не цураўся ніколі
Ні традыцый бацькоўскіх, ні мовы,
Каб ніколі не быў у няволі,
Не пакутаваў ніколі нанова.

Каб сваё больш цаніў ад чужога,
Каб адстойваў яго штохвіліну.
Дык папросім Магутнага Бога:
— Захавай нас і нашу Айчыну!
*(Мае айчыны, 2003)*

## МАЯ МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што пралеглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты — даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

*Падборка Міры ЛУКШЫ*

# Люблю эксперыментаваць словам

**У снежні мінулага года наш выдатны беларускі пісьменнік, публіцыст Міхал Андрасюк адзначыў 60-годдзе з дня нараджэння. Юбіляр сваё жыццё раздзяляе перш за ўсё паміж роднай Войнаўкай і Гайнаўкай. Вядомы ён не толькі як беларускі літаратар, але і журналіст Беларускага Радыё Рацыя. Круглы юбілей Міхась Андрасюк адсвяткаваў у агракватэры «Бора-Здруй» падчас XXII Літаратурнага семінара «Бязмежжа» ў крузе пісьменнікаў і аматараў беларускай прозы і паэзіі. Аднак пісьменніку было важна спаткацца з чытачамі рэгіёна Белавежскай пушчы, якіх сустракае на вуліцах Гайнаўкі або ў Дубіцкай гміне. Такое мерапрыемства ў рамках сустрэчы з цыкла «Юбіляры» адбылося 27 лютага ў Цэнтры прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка» ў Гайнаўцы.**



У пачатку спаткання старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко коратка расказаў пра пісьменніка Міхала Андрасюка, члена Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і паінфармаваў пра яго поспехі на літаратурнай ніве. У сустрэчы апрача гайнавян прынялі ўдзел, між іншым, вучні Непублічнай пачатковай школы ў Залуках, якія прыехалі з настаўніцай беларускай мовы Уршуляй Шубздай.

Міхал Андрасюк, ураджэнец Войнаўкі, які сваё жыццё раздзяляе перш за ўсё паміж роднай вёскай і Гайнаўкай, з'яўляецца аўтарам кніг прозы — «Фірма» (Беласток, 2000), «Мясцовая гравітацыя» (Беласток, 2004), «Белы конь» (Беласток, 2006, перакладзенай на польскую мову і выдадзенай у 2011 годзе), «Вуліца Добрай Надзеі» (Мінск, 2010), «Wagon drugiej klasy» (Беласток, 2010), «Krzyżyk» (Беласток, 2015), «Поўня» (Беласток, 2018). Пісьменнік узнагароджваўся часопісам „Дзеяслоў" літаратурнай прэміяй „Залаты апостраф", літаратурнай прэміяй прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага, з'яўляецца лаўрэатам другога месца прэміі імя Ежы Гедройца, якую прысвойваюць у Мінску.

Да сваёй творчасці Міхась Андрасюк вярнуўся пазней, аддаўшы ў пачатку сустрэчы перавагу ўспамінам. Дзяцінства і юнацтва будучы пісьменнік правёў у Войнаўцы Дубіцкай гміны. Беларускай літаратурнай мове вучыўся ў Пачатковай школе ў Старыне і ў Гайнаўскім белліцэі. Пасля заканчэння вучобы працаваў настаўнікам у Пачатковай школе ў Палічнай. Пазней выконваў намагільныя помнікі. Ужо многа гадоў працуе журналістам на Беларускім Радыё Рацыя.

— Журналісцкую працу пачаў я з пісання тэкстаў у «Ніву». Калі аказалася, што мой голас падыходзіць да працы ў эфіры, пачаў працаваць радыёжурналістам на «Рацыі», — удакладніў герой сустрэчы.

Беларускія вершы малады Міхаська пачаў пісаць будучы яшчэ вучнем.

— Беларускай мове я вучыўся з другога класа пачатковай школы, так як і ўсе мае праваслаўныя равеснікі. Першыя мае вершаваныя творы друкаваліся ў «Ніве» і гэта заахвоціла мяне да далейшага пісання. Прывабным было для мяне чытанне кніжак. Я вельмі многа чытаў з маладых гадоў жыцця. Выдаўцом першай маёй кнігі «Фірма» было Літаратурнае аб'яднанне Белавежа. У «Ніве» раней друкаваліся мае апавяданні, якія ўвайшлі ў кніжку. «Мясцовую гравітацыю» і «Фірму» пісаў я па-беларуску. Пазней быў «Белы конь», перакладзены на польскую мову. Менавіта за польскамоўны пераклад атрымаў я — як першы беларус — прэмію Веслава Казанэцкага (да прэміі намінуюцца толькі творы на польскай мове). Пасля такую ўзнагароду атрымала таксама Міра Лукша. «Вагон другога класа» напісаў я на польскай мове, але захаваліся ў гэтай кніжцы меладычнасць беларускай мовы. Не атрымаў за яе літаратурнай прэміі Веслава Казанэцкага, але трапіў у фінал аўтараў кніжак намінаваных да гэтай узнагароды. Спачатку «Вагон другога класа» я пісаў па-беларуску. Ідэя выдання гэтай кніжкі па-польску з'явілася пазней, паколькі я хацеў дайсці да іншага чытача, — расказваў Міхась Андрасюк. — Я не першы пішу аб вёсцы. У Гайнаўцы жывуць выхадцы з вёсак і таму наш горад у пэўнай ступені з'яўляецца іх адлюстраваннем. Вёска мне блізкая. Я ў ёй многа пражыў і таму настальгую па тым, што прайшло і не вернецца. У кожнай з маіх кніжак ёсць крыху аўтабіяграфіі. Аднак найчасцей мае героі гэта адлюстраванне многіх асоб з рэальнага жыцця. У «Поўні» я пакарыстаўся імёнамі маіх продкаў і ёсць у ёй месцы з рэальнага жыцця. У «Крыжыку» зведаліся да жыцця ў нашым рэгіёне і абапіраўся на назіраннях з некалькіх гмін. Пазней сказалі мне, што апісанае ў кніжцы актуальнае таксама для абставін, якія склаліся ў грамадскім жыцці пад Седльцамі, ці Шчэцінам.

Чытачы звярнулі ўвагу на пошукі новага ў паэтычнай прозе Міхала Андрасюка.

— Я люблю эксперыментаваць словам. У мяне стаўленне да мовы свабоднае і не баюся звязваць па-свойму беларускія словы. Напрыклад, увёў у беларускую літаратурную мову слова «гравітацыя», якім дагэтуль акрэслівалася прыцяжэнне. Часта доўга гуляю словам, параўноўваю яго да іншага. Працуючы на радыё, я прызвычаены да мовы радыё, яе меладычнасці. Знакі прыпынку стаўлю там, дзе яны мне патрэбны, каб была адпаведная меладычнасць напісанага і дынаміка тэксту. Калі канчаю пісаць кніжку, яшчэ чытаю яе ўголас і, калі губляюся з чытаннем, папраўляю, — расказваў Міхась Андрасюк.

Герой сустрэчы выявіў, што яго любімым пісьменнікам з'яўляецца Рыгор Барадулін, якога асабліва цэніць менавіта за ўмелую падборку слоў і словазлучэнняў. Калі размова сышла на апошнюю кнігу «Поўня», выдадзеную звыш года назад Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва», пісьменнік зачытаў фрагмент перакладу Марціна Рэмбача на польскую мову, што выклікала вялікае зацікаўленне ў тых, якія не чыталі кніжкі. Удзельнікі сустрэчы пазней куплялі «Поўню» і атрымлівалі аўтограф аўтара. Асобы, якія прачыталі «Поўню», ведалі, што ў ёй многа невядомага, мараў і пошукаў, што адбываецца перапляценне месцаў і часу дзеянняў, а яе героя на вёсцы называюць Міша, у горадзе — Міхал, а ў царкоўным жыцці ён Міхаіл.

— «Поўня» гэта эпіка, ці лірыка? Ваша мова ў «Поўні» вельмі паэтычная, не скалечаная ўніверсітэцкай карэктнасцю, — заявіла былая настаўніца польскай мовы Марыя Балтрамюк з Гайнаўкі.

Даследчыкі прозы Міхася Андрасюка перакананыя, што на падставе «Поўні» можна найлепш ацаніць талент яе аўтара, спеласць і непаўторны стыль пісання. Міхал Андрасюк паінфармаваў, што менавіта за «Поўню» стаў лаўрэатам другога месца прэміі імя Ежы Гедройца.

— «Поўня» пра мары, фантазіі і пошукі, не прытрымліваецца часу, прасторы, законаў жыцця і смерці. Кніга пра нашу беларускую супольнасць і наш беларускі менталітэт, прывязанасць да свайго месца і пра згоду на свой лёс. У «Поўні» нерэальнае пераплятаецца з рэальным. Падзеі абапіраюцца на трохкутніку і адбываюцца ў Белавежскай пушчы, Беластоку і Мінску, — заявіў герой спаткання.

— Зараз распаўсюджваецца меркаванне, што ў мясцовых жыхароў абыякавыя адносіны да аховы Белавежскай пушчы і яе прыроды. Аднак у нашых людзей была і ёсць пашана да пушчы і дрэў не высякаюць без патрэбы. У «Поўні» ў абрадзе перад ссячэннем дрэва я паказваю, як пушчанскі жыхар абыходзіць яго, моліцца па-свойму, як быццам прылашчвае дрэва, пакуль яго ссякуць. З майго дзяцінства памятаю, што была вялікая пашана для дрэва і ссякалі яго ў выпадку вялікай патрэбы. Я сам прыхільнік мінімальнай інгерэнцыі ў пушчанскія працэсы, паколькі пушча з'яўляецца цудоўным месцам. Аднак не разумею тых эколагаў, якія не бачаць чалавека. Я гавару ім: чаму не прышпільваецеся ў міністэрстве, каб далі грошы на давядзенне газу да нашых вёсак або на рамонты мясцовых дарог? — гаварыў Міхал Андрасюк.

Адказваючы на пытанне, герой сустрэчы сказаў пра свае адносіны з нашым беларускім пісьменнікам і публіцыстам Сакратам Яновічам.

— Сакрат Яновіч меў свае погляды на розныя тэмы, а яго спосаб выказвання меў свой каларыт. Ён таксама падштурхваў мяне да пісання і даваў мне парады, — заявіў Міхась Андрасюк і рассакрэціў, што хацеў здабыць вышэйшую адукацыю па беларускай мове і літаратуры. — Падаў я ўсе патрэбныя дакументы і хацеў вучыцца экстэрнам на факультэце беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. На ўступных экзаменах у мяне па беларускай мове атрымаўся найлепшы вынік. Таму адзнака тры па беларускай мове, якую атрымаў у Гайнаўскім белліцэі, была мацнейшая ад пяцёрак, якія атрымалі пазней выпускнікі белліцэяў, якія прыступалі разам са мной да ўступнага экзамену па беларускай мове. Аднак паставілі мне ўмову, што першы год на беларускай філалогіі буду вымушаны хадзіць на ўсе заняткі і толькі з другога года навучання буду мог займацца і здаваць экзамены экстэрнам. Я не рашыўся на такі варыянт.

Міхала Андрасюка спыталі таксама пра новую кніжку.

— Маладыя людзі цяпер гавораць, што гатовы ўміраць за айчыну. Вайна гэта больш складаная падзея, чым камп'ютарная гульня, а людскае жыццё — адно. Ёсць яно цудам, як і ўваскрэсенне. Наша жыццё — цікавае, а зло нараджаецца з пустога і мы зараз не ведаем куды ідзем. У маёй чарговай кніжцы намерваюся напісаць аб тым, як нараджаецца зло, адкуль яно бярэцца ў пустым полі, — сказаў у завяршальнай частцы сустрэчы Міхал Андрасюк.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Незабыўнае

Заўважыла я, што ёсць людзі, знаёмства з якімі пакідае прыемнае ўражанне на ўсё жыццё, нават калі была адна-адзіная сустрэча.

З матушкай Антанінай Сасной адбылося менавіта так. Уразіла мяне эрудыцыя жанчыны, добры гумар, гасціннасць і далікатнасць. Не часта, сустрэўшыся выпадкова, разумееш, што гэта — твой чалавек. Добрая суразмоўца, яна ўмее выслухаць і пачуць субяседніка. А шырокае кола інтарэсаў матушкі — вынік яе паўсядзённай творчай работы.





Перакрочыўшы 80-гадовы рубеж, яна па-ранейшаму дастойна нясе свой узрост, не скардзячыся на перыпетыі жыцця. Увесь вольны час прысвячае творчасці, імкнучыся завяршыць пачатае а. Рыгорам у Рыбалах, дзе бацюшка служыў на працягу 20 год. (Сёння на ўліку ў сужэнства 40 кніг, якія знаёмяць ахвотных з цудадзейнымі іконамі, з мясцовасцю, дзе давялося служыць, з людзьмі...).

З вёскай Рыбалы ў матушкі звязана шмат успамінаў, галоўны з якіх — музей сялянскага побыту, які размясціўся ў будынку колішняй школы. Абодва паверхі запоўнілі прылады, якія суправаджалі жыхароў навакольных вёсак у іх паўсядзённым жыцці: ткацкія станкі, косы, цапы, калаўроткі і г.д. Сцены пакояў аздоблены вышыванкамі, карцінамі мясцовых умельцаў, ткацкімі вырабамі... Усяго не пералічыць у кароткай інфармацыі, але можна знайсці поўны спіс у кнізе матушкі, прысвечанай гэтым здабыткам. Грэе душу яшчэ і тое, што ў канцы выдання — пералік прозвішчаў тых, хто перадаў у музей свае рэчы. Гэта вельмі кранае.

Музей — любімае дзецішча матушкі Антаніны, стварэнню якога яна прысвяціла не адзін год жыцця. Хочацца верыць, што і сёння ён запатрабаваны зацікаўленымі ў захаванні народных скарбаў людзьмі. Упэўнена, што сярод жыхароў вёскі Рыбалы знайшліся неабыякавыя насельнікі, якія падтрымліваюць пачатую матушкай карысную справу — дэманстраваць зробленае некалі продкамі, ведаць даўніну, знаёмячы з вырабамі ўмельцаў. Вопратка, хатні скарб, прылады рамеснікаў дазваляюць наведвальнікам перанесціся ў думках у XVII-XIX стагоддзі, каб адчуць подых старажытнасці.

Я са сваімі падарожнікамі неаднойчы бывала ў музеі, кожны раз знаёмячыся з новымі экспанатамі. Дарослыя былі не менш уражаныя, чым дзеці, для якіх усё ўбачанае — сапраўднае адкрыццё.

З вялікай удзячнасцю ўзгадваю свае сустрэчы з матушкай і ў Рыбалах, і ў Бельску, куды час ад часу я наведваюся, каб наталіцца яе энергетыкай, дабрынёй і гасціннасцю. Вяртаюся дамоў заўсёды ў прыўзнятым настроі. Жывіце доўга, мілая руплівіца, радуйцеся кожнаму новаму дню і людзям, якія Вас акружаюць. І няхай усе добрыя справы, якімі поўніцца Ваша жыццё, вернуцца да Вас шчаслівым даўгалецем побач з тымі, хто Вам блізкі і дарагі.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

PS. Маё знаёмства з сям'ёй а. Рыгора Сасны адбылося 15 год таму дзякуючы «Ніве», якую бацюшка чытаў ад першага нумара да апошніх дзён свайго зямнога жыцця. Зацікавіўшыся маімі допісамі ў газету, ён папрасіў Наталлю (маю дачку) пазнаёміць нас, што неўзабаве і адбылося.




За апошнія дзесяцігоддзі, калі разваліўся так званы сацыялістычны лагер, вялікія змены адбыліся ва ўсіх галінах жыцця. Можа ў якойсьці краіне гэтыя змены былі большымі, а ў якойсьці — меншымі, але яны былі паўсюдна. І асабліва гэта датычна адукацыі і спосабаў яе набыцця студэнтамі. Зараз можна навучацца, не выходзячы з дому, — галоўнае, каб быў камп'ютар. Але і адукацыя ад выкладчыка да студэнта па-ранейшаму карыстаецца попытам, і з таго развіваецца і ўдасканальваецца. Адным з варыянтаў такога ўдасканальвання можна назваць нефармальную адукацыю.

Ужо шосты год у Беларусі дзейнічае так званы „Еўрапейскі каледж Liberal Arts" (ECLAB), які якраз і прапануе цалкам лібералізаваную адукацыю. Для больш падрабязнага знаёмства з ім варта зазірнуць на сайт **http://eclab.by**. „ECLAB задуманы як нефармальная альтэрнатыва беларускай сістэме вышэйшай адукацыі, якая захавала шэраг хібаў з савецкіх часоў. Нягледзячы на ўсе змены, якія адбыліся за апошнія дваццаць гадоў, гэтая сістэма па-ранейшаму адрозніваецца сваёй нягнуткасцю, дысцыплінарна-маналагічным характарам выкладання і адсутнасцю ў студэнтаў індывідуальнага выбару на ўсіх стадыях вучобы. Мадэль Liberal Arts Education, наадварот, вылучаецца індывідуальным планам навучання, які сумяшчае шырыню дысцыплінарнага ахопу з глыбінёй вывучэння прадмету", — распавядаецца ў рубрыцы „Пра каледж".

Мэта каледжа, як яе акрэсліваюць яго стваральнікі, — навучыць студэнтаў артыкуляваць сваю пазіцыю так, каб быць пачутымі і зразуметымі, а таксама навучыць аргументавана адстойваць свой пункт гледжання, ствараць супольнасці аднадумцаў і канструяваць для іх публічныя пляцоўкі такім чынам, каб забяспечыць свабодную і прадуктыўную камунікацыю.

Варта адзначыць, што сайт мае тры моўныя версіі — рускую, беларускую і англійскую. Праўда, далёка не ўсе рубрыкі змяшчаюць інфармацыю на ўсіх трох мовах. Уладальнікі сайта палічылі, відаць, што, напрыклад, адказы на найбольш частыя пытанні дастаткова, каб былі толькі па-руску.

Сярод іншых недахопаў сайта — неадпаведнасць дат той інфармацыі, якая можа зацікавіць наведвальніка. Так, арганізатары курсаў запрашаюць падаваць заяўкі ўсіх, хто адчувае патрэбу ў новых ведах, але чамусьці з 1 ліпеня 2016 года. На календары ўжо 2020 год і, верагодна, што паведамленне чатырохгадовай даўніны можа быць ужо не зусім актуальным. Калі ж мы зойдзем на старонку для падачы заявак, то там пазначаны дэдлайн — 15 верасня 2019 года.

Не абышлося на сайце і без сучаснай малазразумелай тэндэнцыі ва ўсходнеславянскіх мовах выкарыстоўваць фемінітывы дзе варта і дзе не варта. Аўтары сайта паддаліся модзе, дзе жанчын ужо нельга называць, напрыклад, лідарамі ці ўдзельнікамі, але толькі лідаркамі ці ўдзельніцамі. Здаецца, што натхняючыся жаданнем даць высокія стандарты адукацыі, зусім не варта размензвацца дзеля моды на такія праявы нібыта гендарнай роўнасці.

Штo ж тычыцца кірункаў навучання, ці як яны называюцца ў ECLAB канцэнтрацый, то іх пазначана пяць: «Інтэрнэт і грамадства», «Сучаснае грамадства, этыка і палітыка», «Масавая культура і медыя», «Публічная гісторыя», «Сучаснае мастацтва і тэатр».

**Аляксандр ЯКІМЮК**



ДАТА З КАЛЕНДАРА

## 125 гадоў з дня нараджэння

# Тамаша ГРЫБА

Беларускі грамадска-палітычны, культурны дзеяч Тамаш Грыб нарадзіўся 19 сакавіка 1895 г. у вёсцы Паляны Свянцянскага павета (сучасны Смаргонскі раён). Паходзіў з беднай сялянскай сям'і. Вучыўся ў Пецярбургу на псіханеўралагічным факультэце, дзе пазнаёміўся з некалькімі беларускімі дзеячамі і ўлучыўся ў нацыянальны рух. У Першую сусветную вайну ў 1914 г. мабілізаваны ў расійскую армію і адпраўлены на Румынскі фронт. Быў дэлегатам ад вайсковай арганізацыі на Усебеларускім з'ездзе ў Менску ў снежні 1917 г., дзе яго арыштавалі бальшавікі. Пасля абвяшчэння БНР стаў сябрам яе Рады і Выканаўчага камітэта. Ва ўрадзе Язэпа Варонкі — народны сакратар земляробства. Тамаша Грыба можна лічыць адным з айцоў БНР. Уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. Быў дэлегатам III Усерасійскага з'езда саветаў у Петраградзе, на якім пратэставаў супраць разгону Усебеларускага з'езда і падзелу Беларусі. У студзені-сакавіку 1919 г. выдаваў у Вільні газету „Грамадзянін" — орган Беларускай сацыялістычнай грамады. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Летам 1919 г. Тамаш Грыб арыштаваны польскімі ўладамі як супрацоўнік гродзенскай газеты „Родны край", вясной 1920 г. — як сябра Мінскага падпольнага камітэта. На час зняволення ў гарадзенскай турме прыпадае гісторыя рамантычных адносін Грыба з Паўлінай Мядзёлкай. Пазней Грыб быў інтэрнаваны ў лагер Домбе пад Кракавам, адкуль уцёк. З канца 1920 г. быў у Коўне, дзе ўдзельнічаў у выданні газеты „Сялянская доля", друкаваўся пад псеўданімамі Т. Глеба, Антон Небарака. З восені 1922 г. жыў у Празе. Там у 1928 г. закончыў філасофскі факультэт Карлавага ўніверсітэта. Абараніў доктарскую дысертацыю на тэму „Пытанне народу і нацыі". Тамаш Грыб паслядоўна выступаў супроць вяртання ў БССР, дзе ўсе, хто вярнуўся, чамусьці хутка зніклі. „Пакіньце займацца дурніцай", — адказаў ён, калі яго запрасілі прыняць удзел у 1926 годзе ў акадэмічнай канферэнцыі ў Менску, якую праводзіў Інбелкульт.

Грыб быў сябрам замежнага бюро БПС-Р, актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускага культурнага таварыства імя Францішка Скарыны, Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. З 1930 г. працаваў у Славянскай бібліятэцы ў Празе. У 1934-1938 гг. працаваў загадчыкам Беларускага заграніччага архіва, складаў бібліяграфію па беларусазнаўстве. Супрацоўнічаў з часопісамі „Перавясла", „Іскры Скарыны", „Студэнцкая думка", „Золак" і іншымі. Аўтар артыкулаў па гісторыі Беларусі, такіх як „Да пытання аб паходжанні герба Пагоня", „Віленскае пытанне", удзымаў філасофскія пытанні ў такіх артыкулах як „Шляхам Скарыны", „На два франты", „Нацыя як прадмет навуковага вывучэння", „На шляху да вызвалення", „Рэлігійная справа Беларусі". Маючы сацыялістычныя погляды, стаяў на пазіцыях крытыкі таталітарных падыходаў практыкі пабудовы сацыялізму.

Пры жыцці Тамаш Грыб паспеў апублікаваць урыўкі са свайго рамана „Паўстанцы", перакладаў на беларускую і чэшскую мовы брашуры грамадска-палітычнага кірунку. Пакінуў пасля сябе эпісталярную спадчыну. Памёр Тамаш Грыб, захварэўшы грыпам, 25 студзеня 1938 г. усяго ў 43-гадовым узросце, пахаваны на Альшанскіх могілках у Празе. Жыццю і дзейнасці Грыба быў цалкам прысвечаны апошні 8-ы нумар часопіса „Золак". У 2017 годзе ў Мінску выйшла кніга выбраных твораў Тамаша Грыба.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Дом пад ліпай

Дом стаіць пры вуліцы ў цэнтры вёскі Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Гэта невысокі драўляны дом ужо стары, але такі, якім быў каля ста гадоў таму. Яго не перабудоўвалі, не аднаўлялі. Захавалася яго нязменнасць, яго арыгінальны стыль. Я яго добра памятаю аж з 1952 года, калі пачаў хадзіць у Пачатковую школу ў Старым Ляўкове. Ад школьнага панадворка аддзяляў яго драўляны плот і агарод, у якім садзілі капусту, буракі, бульбу і гарбузы. Недзе ў 1958 годзе быў ужо садок, а ў ім яблыні, грушы, слівы і вішні. Ужо тады каля хаты расла ліпа. Перад хатай была глыбокая студня, якой карысталася многа мясцовых жыхароў. У калодзежы была вельмі добрая вада.

У доме пад ліпай жыў мой аднакласнік і добры вучань Вася Садоўскі. Я часта заходзіў да яго. Ён меў брата Віталя і сястрычку Мірку. З акон, якія выходзілі на вуліцу, было відаць царкву. Вася меў вельмі блізка ў царкву і школу. Мой сябра меў ветлівых і добразычлівых бацькоў. Такімі яны засталіся ў маёй памяці. Я любіў заходзіць у іх дом. З Васем мы вучыліся таксама ў Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы. Даязджалі мы поездам у Гайнаўку. Да поезда то я меў бліжэй. Васі спадарожнічалі яшчэ дзве дзяўчыны са Старога Ляўкова. Цяпер Васіль жыве ў Варшаве. Ужо многа гадоў. Летам прыязджае ў родную вёску. А ліпу ссеклі. Як напамін ад яе астаўся высокі і тоўсты ды нічуць не змуршэлы пень. Ліпа была высокая-высокая.

Міраслава Садоўская хадзіла ў Пачатковую школу ў сваёй роднай вёсцы. Была маёй вучаніцай чатыры гады (класы V—VIII). Была выдатніцай. Зараз жыве з мужам па прозвішчы Балтрамюк у Старым Ляўкове. Яна шмат гадоў верная і дакладная чытачка „Нівы". Гэта цешыць. Дзе як дзе, а ў Нараўчанскай гміне беларускі штотыднёвік чытае сама меней 30 жыхароў. Некаторыя купляюць беларускую газету несістэматычна. Пяць чалавек, якія дагэтуль чыталі „Ніву", памерлі і то ў кароткім часе, двое з Новага Ляўкова ў пачатку сакавіка бягучага года. **(яц)**



## Сямейны музей запрашае

Музей заснавалі Лена і Мікалай Харкевічы ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны ў 1988 годзе. З гэтай мэтай перавезлі драўляны дом сваіх бацькоў з іншай вёскі. Ён патрабаваў рамонту. Затым пачалі напаўняць яго прадметамі хатняга ўжытку зараз музейнай вартасці.

Дом як дом, у ім сені, кухня, пакойчыкі, камора. Усярэдзіне на сценах вісяць іконы, у рамках партрэты продкаў, вышываныя макаткі і ручнікі, святочныя вышываныя жаночыя і мужчынскія кашулі і там-сям паліцы-полкі.

Мінулае нагадваюць, між іншым, лямпы-газоўкі і фанары, прасы з г.зв. душой, валкаўніцы, маслабойкі, саганы, гаршкі, хлебныя дзежкі, капанькі, драўляныя бочкі, гліняныя збаны і верцехі. У музеі можна агледзець акаваныя (яны часта пасажныя) скрыні, лавы, жорны, кросны, снойніцы, развітушкі, калаўроткі, матавілы.



Спадарства Лена і Мікалай Харкевічы з Плянты займаюцца агратурызмам. Іх кватэра мае назву „Меліса". Для турыстаў сямейны музей з'яўляецца атракцыёнам. Варта, каб ім пацікавіліся настаўнікі і школьная моладзь. Музей запрашае.

Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Вясна прыходзіць з кветкамі

Улады Беластока дбаюць, між іншым, пра тое, каб горад быў прыгожы і прыязны. Набліжаецца вясна. Прырода будзіцца да жыцця. Вясна прыходзіць з кветкамі. З зямлі паказаліся жоўтыя і фіялетавыя шафраны. Цвітуць разнаколерныя браткі і стакроткі. Гэтыя апошнія кветкі, што важна, не баяцца замаразкаў. Яны красуюцца на скрыжаванні вуліц з кругавой развязкай імя Люсы і ў кветніцах у цэнтры горада, між іншым, на Рынку Касцюшкі і вуліцы Ліпавай, а таксама ў парку Плянты. Гэтыя прыгожыя расліны любяць беластачане.

Кветкі ўпрыгожаць горад. Неўзабаве пасадзяць іх, між іншым, на вуліцах Новы Свет, Спулдзельчай, Суражскай, Прыгожай, Сянкевіча, Кілінскага, Касцельнай і Слонімскай. **(яц)**

## Адгаданка

**1.** суправаджаецца полымем, **2.** буйны лясны масіў, **3.** „зорка" Максіма Багдановіча, **4.** цэнтр Троцкага ваяводства, **5.** паказальны або пробны выраб, **6.** частаванне гасцей, **7.** чало, **8.** важны горад на рэчцы Лідзеі, **9.** арганічны і неарганічны свет, **10.** Эліза, гродзенская пісьменніца (1841-1910), **11.** насенне хлебных злакаў, **12.** эпоха.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Капа, далягляд, кірмаш, Ева, чай, шавец, рай, Хаванскі, цукар, ачаг, студэнт, яд, шар, Львоў, галеча.

Рашэнне: **Пад авечай шкурай хаваецца часта воўчая душа**.

## 22.03 — 28.03

**(22.03. — 20.04.)** Да чаго дакранешся, замяніцца ў золата. 23-25.03. будзеш гатовы да выклікаў і рызыкі. 22-24.03. стартуй у гонках на вышэйшую пасаду. 22-26.03. пільнуйся, каб сабе самому на зашкодзіць. Да 26.03. кожная сутычка ў пары будзе канчацца сусветным скандалам. З 27.03. (да 31.03.) не будзе лепшай нагоды да рамонту ці куплі жылля. З 26.03. перастанеш турбавацца, адкуль узяць грошы.

**(21.04. — 21.05.)** Адкрыюцца перад табой магчымасці з мараў. Авансы, выезды, выйгрышы, развой. 22-23.03. сарганізуеш і супольна штосьці зробіш для супольнасці. 22-25.03. мілае рандэву. 22-26.03. адкрывай сваю фірму, дамаўляйся на бізнесовыя размовы. З 27.03. прыцягнеш да сябе тое, чаго найбольш жадаеш. Народжаныя ў II дэкадзе будуць мець шчасце да выйгрышаў. Хаця 23-25.03. маладзік у Баране можа адняць табе вітальныя сілы і радасць.

**(22.05. — 22.06.)** Не ўсе будуць цябе падтрымліваць, але дасі рады. 21-23.03. багатыя прапановы і шанцы на развой. 21-25.03. рыхтуй рамантычную вячэру і гожа апранайся. 21-23.03. пазнаёмішся з людзьмі з іншым чым тваё пачуццём гумару; не мусіш каркаць як вароны, да якіх трапіў. 21-23.03. адвага, зможаш увайсці са сваім на рынак. Калі твае прапановы лішне рэвалюцыйныя, зрабі дробныя папраўкі. Хаця на працы можаш стаць казлом адпушчэння. Не зլаві інфекцыі, еж часнок, цыбулю.

**(23.06. — 23.07.)** 22-25.03. павялічацца сямейныя анімозіі. 23-25.03. лепш не стаў усяго на адну карту. Някепскі ўвесь месяц. Добры клімат для кампанейскіх сустрэч. З 26.03. (да 30.03.) самотныя Ракі няхай не праваронаць важнай для іх лёсу сустрэчы. У парах са стажам 22-26.03. горача! 22-23.03. да размоў пра працу, негацыяцый у справе павышэння падыдзі спакойна, пазітыўна. З 26.03. (да 31.03.) трапныя бізнесовыя прыёмы, інвестуй у майстэрню, офіс, рэкламу. 22-24.03. падакучаюць табе суставы, не толькі з-за змены надвор'я.

**(24.07. — 23.08.)** 23-25.03. з аптымізмам глянеш у будучыню і паверыш у сябе. Схочацца змен. 23-25.03. раскрыюцца вочы на сардэчныя справы. 22-26.03. будуць круціцца вакол цябе лянівыя і хітрыя супрацоўнікі. Не дазволь, каб хтосьці забраў твае дасягненні! З 26.03. захочацца табе прыемнасцей, на якія можа не будзе ставаць. 22-26.03. могуць насіліцца нямогласці — страўнік, пячайка, а нават язва, падстраўнікавыя залоза і пячонка.

**(24.08. — 23.09.)** 21-25.03. зоркі падкажуць, як выкарыстаць твае таленты. 22-23.03. будзеш рады жыццю і выдатнай форме. Цешся тым, што маеш, а маеш шмат! Памножыш свае ашчаднасці. Дзевы без пары з 27.03. (да 31.03.) могуць закахацца, каб толькі не ў кімсьці занятым! Даранню спрыяе час 21-25.03.

**(24.09. — 23.10.)** 21-25.03. шчаслівы час для сувязей. Партнёр будзе цябе насіць на руках! 23-25.03. будзеш запрошаны на прыём ці сарганізуеш яго сам. 23-25.03. вернуцца шчаслівыя дні ў пары, а партнёр будзе нават крыху шалёны. З 26.03. (да 30.03.) дойдзе да вырашэнняў у сям'і, не мусяць яны быць па тваёй думцы; што ж, глытні горкую пілюлю спакойна. 22-26.03. хтосьці можа патрактаваць цябе без пашаны. З 26.03. бярыся за ўласную дзейнасць — канкурэнцыя пашкадуе!

**(24.10. — 22.11.)** 22-24.03. не выбухні без дай прычыны! 22-23.03. трэба будзе памагчы сябру ці сваяку. 22-24.03. могуць на цябе зваліцца заданні на тваю сілу. І так выкараскаешся з крызісу ты і твая фірма. 21-23.03. атрымаеш шанц навучыцца новых умеласцей, варта развівацца. 22-26.03. не набі сабе гузака. Вялікая фінансавая дабаўка. Можаш паддацца не адной жарснай спакусе. Будзеш накручаны на любоў. 22-25.03. асабліва рамантычна і горача ў пастаянных парах. Самотны Скарпіён з 26.03. (да 31.03.) прыхіліць да сябе абранніка.

**(23.11. — 22.12.)** 23-25.03. вызначыш новую мэту і знойдзеш да яе дарогу. З 26.03. папраў памылку ў пары. 22-24.03. амбітныя задумы зрэалізуеш і заменіш на грошы! На сходах і прэзентацыях заззяеш і не дасі сябе збіць з панталыку. 23-25.03. новыя прапановы працы; можаш пачаць уласную дзейнасць, маеш нос да інтарэсаў. З 26.03. (да 30.03.) варта інвеставаць у зямлю, золата, нерухомасці.

**(23.12. — 20.01.)** 22-23.03. наведай сваякоў. 23-25.03. пераканаешся, што некаторыя сябры прытвараліся. З 28.03. не будзь бязлітасным. Паб'еш канкурэнцыю. 22-24.03. знойдзеш спосаб, каб перамагчы перашкоды ў пары. 22-26.03. магчымы хатнія сутычкі; не распальвай спрэчак. 22-23.03. плануйце супольныя выезды. З 26.03. (да 31.03.) разглядайся за сапраўдным каханнем.

**(21.01. — 19.02.)** 21-23.03. геніяльныя задумы наконт кар'еры. 23-25.03. новыя магчымасці і абшары, у якіх можаш падзейнічаць. Але 22-26.03. не страць шмат з-за нерваў і недахопу самакантролю. Падтрымлівай партнёра. З 27.03. (да 31.03.) не адмаўляйся ад сустрэч з сям'ёй. Могуць адкрыцца інтрыгуючыя сакрэты. Больш варушыся.

**(20.02. — 21.03.)** Аптымізм і вера ў сябе памогуць дасягнуць кожную мэту. У пачуццях бяспечна і ціха. 21-23.03., калі ты адзін, зразумееш чаму так ёсць, дасі з тым рады 23-25.03. Навучыся хваліцца сваімі поспехамі. 21-24.03. выкарыстаеш слабасць канкурэнцыі; з 26.03. (да 30.03.) знойдзеш інвестара, атрымаеш крэдыт ці датацыю. З 28.03. шкода сілы на змаганне з ветракамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# Кнышынскі кіркут

**Вось падарожнічаю я па нашым старонні і, здавалася б, збольшага павінен ужо ведаць яго галоўныя асаблівасці. Але ж жыццё зладжана такім багаццем, што заўсёды знойдзецца нешта асаблівае, нешта нечаканае, нешта займальнае, што да таго часу не прыцягнула ўвагі. Ну, быццам на працяг рукі ўсё, а аднак не так.**

Заглянуў жа я нядаўна ў Тыкоцін з мэтай даведацца пра ягоныя даўнія падзеі, у якіх удзельнічалі нашы землякі, нашы продкі. Не ўдалося мне там атрымаць запісаў пра тую даўніну; маўляў, тамашнія людзі так цікавыя свайго месца на зямлі, што ўсю інфармацыю пра тое месца пільна прысабечылі сабе і, мабыць, на памятку будучым сваім чарговым пакаленням. Але пра суседнія мясцовасці цікавасці там менш і мне пашанцавала атрымаць ладны буклет пра яўрэйскія могілкі ў Кнышыне.

Спярша пра сам Кнышын. Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага так піша пра гэтую мясцовасць: „Заснаваны ў пачатку 16. ст. як сяло ў Бельскім намесніцтве (старастве) канцлерам ВКЛ, старастам бельскім М. Радзівілам, які пабудаваў тут паляўнічы двор, у 1520 фундаваў касцёл. Пасля яго смерці Кнышын у 1526 перайшоў да яго сына біскупа жамойцкага М. Радзівіла. Той у 1528 падараваў Кнышын вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту (перадача адбылася ў 1530, пасля смерці біскупа). З-за багатых паляўнічых угоддзяў Кнышын стаў улюбёнай рэзідэнцыяй Жыгімонта Аўгуста, які пабудаваў тут драўляны палац (архітэктар Іоб Брэтфус), заклаў вялікі парк і звярынец, 18.10.1568 даў Кнышыну магдэбургскае права...”

Не пра ўсе здзяйсненні апошняга Ягелона тут мова. Бо ж калі хто цяпер будуе сабе загарадную дачу, а такім аб'ектам па сутнасці быў палац у несталічным Кнышыне, той пры нагодзе капае побач і сажалку. Тое ж самае зрабіў і Жыгімонт Аўгуст, загадаўшы выкапаць сажалкі ў пойме ракі Яскранкі. Адну прамавугольную сажалку абсыпалі магутнай дамбай, каб па ёй магла раскошна шпацыраваць каралеўская світа. Іншыя сажалкі не былі так шыкоўна абкапаны

Апошні кароль з роду Ягелонаў памёр у тым жа Кнышыне ў 1572 годзе. Чарговыя каралі не праяўлялі такога зацікаўлення Кнышынам; дарэчы, часта былі яны прывезеныя на варшаўскі трон „у тэчках”, як бы ў сённяшні час гэта называць. І іх выбар з ходам часу станавіўся ўсё больш вынікам вонкавых палітычных інтрыг і тых тронавых стаўленікаў правінцыйны Кнышын папросту не цікавіў. Кнышынская каралеўская рэзідэнцыя стала занепадаць; сёння ад яе і след не астаўся. Таксама сталі прыходзіць у заняпад і каралеўскія сажалкі...

Яўрэі сталі сяліцца ў Кнышыне пазней, першая звестка пра іх там прысутнасць паходзіць з 1605 года; у палове стагоддзя жыло там некалькі яўрэйскіх сем'яў, у канцы чарговага стагоддзя пражывала ў Кнышыне каля дзвюх сотак яўрэйскіх душ. У 1847 годзе яўрэйская грамадскасць горада налічвала 985 душ, а пяцьдзясят гадоў пазней палову з агульнага ліку амаль чатырох тысяч жыхароў Кнышына. 2 лістапада 1942 года кнышынскіх жыдоў гітлераўцы вывезлі спярша ў Беласток, а адтуль у Трэблінку...

Узбуйненне жыдоўскага насельніцтва Кнышына адбывалася не без складанасцей. У першай палове XIX стагоддзя вакол Беластока ўчыніўся прамысловы зрух, у Беластоку і навакольных мясцовасцях стала развівацца прамысловасць; не абмінуў гэты працэс і Кнышына, куды заглянулі жыдоўскія прадпрымальнікі. Аднак тамашнія хрысціяне выступілі супраць куплі жыдамі нерухомасцей і закладкі там прамысловасці. У выніку судовых разборак была




ўведзена забарона пасяляцца ў горадзе новапрыбываючым яўрэям. Маглі там астацца толькі тыя, якія былі там раней прапісаны, а новыя пасяленцы былі прыгавораны пакінуць горад. І тады хрысціяне спахапіліся, бо высяленню падлеглі патрэбныя ў горадзе рамеснікі — улады ў выніку гэтага адмянілі забарону і лік яўрэйскага насельніцтва горада цягам паўстагоддзя падвоіўся...

Першыя жыдоўскія жыхары Кнышына хавалі сваіх пакойнікаў на тыкоцінскім кіркуце, але ў XVIII стагоддзі сталі хаваць у дамбах даўніх каралеўскіх сажалак. Да міжваеннага перыяду кіркут запоўніўся і кнышынскія яўрэі сталі разглядацца за новым месцам для сваіх пакойнікаў. Задумалі яны зладзіць новы кіркут на недалёкай Гары каралевы Боны, але на гэта не згадзіліся тамашнія хрысціяне, стаўляючы на гары крыж. Тады яўрэі сталі хаваць сваіх нябожчыкаў на суседнім з сажалкамі ўзгорку; пахавалі нямногіх...

У Кнышын падаўся я з нейкім хваляваннем, ці ўдасца мне трапіць на той кіркут. І тое хваляванне расло, калі я ішоў па дарозе ў яго паўднёва-ўсходнім напрамку. Здалёк нічога асаблівага не было відаць. Ну, пойма Яскранкі ў месцы, дзе меў знаходзіцца кіркут, зарасла альшынай, праз якую не было відаць ніякай дамбы. І пытанне: ці ёсць нейкі доступ па тым поймавым балоце... Але паявіўся паказальнік і сціплая сцяжынка побач наезджанай дарогі ў недалёкі панадворак...

Першае маё адчуванне было ніякаватае — могілкі як могілкі, яны, кіркуты, у большасці нашых мястэчак здаваліся мне дагэтуль даволі сумнымі месцамі, пакінутымі на волю лёсу, так як шматлікія некраполіі ў тых мясцовасцях, праз якія пранеслася хваля прымусовай міграцыі. Гэта не толькі кіркуты сведкамі халакосту, але і могілкі ў недалёкай Усходняй Прусіі, пакінутыя выгнанымі адтуль абарыгенамі забыццю і абыякавасці новых гаспадароў. Гэта могілкі з пахіленымі і пагнутымі крыжамі ў нашым недалёкім наваколлі, не толькі на паўднёвым Пабужжы, але і бліжэй, напрыклад у Журобічах...

Кіркут у Кнышыне асаблівы — ён жа закладзены на дамбах, акаляючых каралеўскую сажалку. Сажалка прамавугольная, дамба вакол яе прамавугольная, ад вуглоў якой адыходзяць навонкі тухнучыя веткі... Дамба шырокая, звыш дзесяці метраў шырыні і над мелкай вадой запушчанай сажалкі бадай тры метры вышыні. Агулам на кіркуце захавалася каля сямі сотак мацэваў. Такая кольксць захаваных каменных і бетонных намагільнікаў, як жа іншая чым нешматлікія парэшткі на кіркутах у іншых мясцовасцях, здаецца быць паслядоўнасцю складанага доступу да мясцовай некраполіі; калі б было лягчэй забіраць адтуль каменны матэрыял, магчыма, што і там нямнога асталося б...

У 2014 годзе кнышынскі кіркут быў упарадкаваны, некаторыя намагільнікі абазначаны і апісаны. Вось абнародаваная эпітафія на адной з мацэваў: „Нашы галовы напоўнены болем і горам. Сёння пагаслі нашы вочы і ад гэтага баліць наша сэрца. Чыё сэрца не выльецца як вада ў той дзень, калі яго душа паднялася ў неба? Страта нашай славы паваліла нас на зямлю. Апухлі мы плачам і жальбой. Абрынулася наша галоўная цвярдыня, наш сумленны і высакародны бацька пакінуў нас. Наш напоўнены спагадай і мудрасцю настаўнік. Галодных накарміў сваім хлебам, голых апрануў адзеннем. Яго словы насалоджвалі людзей”.

Як падае Яўрэйская энцыклапедыя Брокхаўза і Эфрана, уваходзячы на могілкі, трэба было сказаць малітву: „Благаслаўлёны той, хто стварыў вас па сваёй волі, карміў і падтрымліваў вас па сваёй волі і вывеў вас з жыцця па сваёй волі. Ён ведае вашы лікі і ўваскрэсіць вас па сваёй волі. Бласлаўлёны, уваскрашаючы памерлых”. Усялякая дзейнасць, якая выражала непашану памерлым, забаранялася жыдоўскімі законамі, напрыклад есці і піць на магілах, а нават прысесці на магіле. Віленскі васямнаццацівечны талмудыст Ільля-Гаон забараняў упрыгожваць кветкамі сінагогі і магілы, палічыўшы, што гэта паўтарэнне хрысціянскага абраду Пяцідзясятніцы: „Праведнікі не імкнуцца ні да прыемнага, ні да карыснага, а да таго, што ў самой існе з'яўляецца дабром, г.зн. да выканання рэлігійных запаветаў і яны правяць свае духовыя дзеянні для выканання запаветаў”. Забаранялася карыстацца растучай на могілках раслліннасцю. Апошняе прыводзіла да таго, што ў даўнія эпохі могілкі часта зарасталі. Пазней, аднак, дазвалялася парадкаваць могілкі і ачышчаць іх. Дазвалялася нават выганяць некаторыя жывёлы для ўстаранення раслін.

Папскія булы і прывілеі свецкіх уладароў забаранялі зневажанне яўрэйскіх могілак, былі нават такія законы, якія за такія зневажанні прадбачвалі смяротнае пакаранне. Нягледзячы на гэта, часта, у час нападзенняў на яўрэяў, разрушаліся іхнія могілкі і расцягваліся мацэвы, якія пазней прызначаліся на гарадскія пабудовы... Было гэта напісана ў названай энцыклапедыі звыш ста гадоў таму. За той час так сталася з большасцю нашых кіркутаў. А кнышынскаму ўдалося ў значнай долі захавацца...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960